PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (2206) Год XLIII Беласток 23 жніўня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Ці стануць фермерамі?

Летнія месяцы ў нас багатыя былі сялянскімі забастоўкамі. Земляробчыя прафсаюзы пратэставалі супраць імпарту збожжа, патрабуючы забяспечыць скупку айчынных сельскагаспадарчых прадуктаў па апаведна высокіх цэнах. Калі прафсаюзныя дзеячы дэманстравалі, сяляне падсямятыцкіх вёсак займаліся на сваіх гаспадарках і толькі ў вольныя хвіліны абмяркоўвалі патрабаванні бастуючых і выказвалі ім сваю падтрымку.

У Гродзіскай гміне будучага Сямятыцкага павета вёскі яшчэ не падвярглiся абязлюдзенню. Там цяпер, як і раней, зямля высока цэніцца, а кожны свабодны кавалак грунту знаходзіць пакупніка. Па вёсках многа маладых гаспадароў, а пустуючыя хаты — рэдкая з'ява.

— Ці ў бліжэйшай будучыні вёска захавае статус-кво, ці зменіцца? — пытаю ў сялян, з якімі давялося мне нядаўна сустрэцца ў ваколіцы Гродзіска. Адказвалі мне згодна, што з цягам часу наступіць узбуйненне гаспадарак і маламазямельныя сяляне не змогуць праіснаваць у канкурэнцыі з новымі фермерскімі гаспадаркамі, а гэта ў сваю чаргу давядзе да змены вобліку сённяшняй вёскі. Ужо сёння можна заўважыць свайго роду „спецыялізацыю" сярод мясцовых гаспадароў. У гэтай ваколіцы многія выязджаюць у Бельгію на заробкі. Прывезеныя адсюль долары адны ўкладваюць у будову катэджаў у Сямятычах, другія — у гаспадарку.

Саракагадовы ўладальнік 50-гектарнай гаспадаркі ад дзесяці гадоў інвестуе ў сваё прадпрыемства пад адкрытым небам. За гэты час дакупіў 30 гектараў угоддзяў, паставіў мураваны дом і механізаваную абору, купіў асноўныя сельскагаспадарчыя машыны, плануе купіць збожжаўборачны камбайн. У інвестыцыях выдатна дапамагаюць яму жонка і цесць, якія ўжо дзевяць гадоў рэгулярна ездзяць у Брусель на заробкі. Дзякуючы гэтаму не прыходзіцца яму браць дарагіх крэдытаў у кааператыўным банку. А яго 35-гадовы сусед, які таксама на працягу некалькіх апошніх гадоў паставіў гаспадарку на ногі, не столькі эканамічныя, што матрыманіяльныя клопаты — да гэтай пары не знайшоў яшчэ кандыдаткі на жонку, якая схацела б прыйсці на гаспадарку.

Мае суразмоўцы наракаюць на сельскагаспадарчую палітыку гэтага і папярэдніх урадаў, але далейшы свой лёс звязваюць менавіта з земляробствам. Спадзяюцца стаць фермерамі, такімі як на Захадзе, якіх паказваюць у тэлеперадачах для сялян. А калі гэта ім не ўдасца, мяркуюць, то фермерамі стануць іхныя дзеці.

Віталь Луба



*Чэслаў Мілаш у Белавежы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Чэслаў Мілаш у Белавежы і Гайнаўцы

Ганна Кандрацюк

— Справа аховы лясоў спадарожнічае мне з самога маленства, — сказаў Чэслаў Мілаш на сустрэчы ў Белавежы 6 жніўня г.г. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі прыехаў па запрашэнні Таварыства аховы Белавежскай пушчы, якое прысвоіла паэту ганаровае званне Прыяцеля пушчы.

— Сённяшняя сустрэча — доказ таго, што нашы дзіцячыя летуценні часам збываюцца, — гаварыў Чэслаў Мілаш. — Ужо ў трынаццацігадовым узросце я быў эколагам. Рысаваў свае карты прыдуманых краін, якія кшталтам напаміналі якраз Белавежскую пушчу. Адзіным сродкам камунікацыі ў такой краіне мелі быць плаваючыя па рэчках чоўны. Доступ і ўваход у пушчу мелі б адно энтузіясты прыроды.

Паэт параўнаў высечку Белавежскай пушчы да разбірання па цагліне Вавельскага замка.

— І калі я пісаў пра пушчу, — гаварыў Чэслаў Мілаш, — лічыў гэта сваім абавязкам паэта. Мая паэзія ўзнікла якраз з пашаны для існуючай рэчаіснасці. Мастацтва XX стагоддзя ўцякае ў штучны свет, — лаўрэат Нобелеўскай прэміі палічыў гэта адмоўнай з'явай.

Чэслаў Мілаш атрымаў таксама ікону св. Герасіма, праваслаўнага заступніка звяроў і раслін. Хор з парафіі святога Мікалая, якім кіруе Юрка Кулік, праспяваў шаноўнаму госцю „Магутны Божа", „Многае лета" і народную песню „Ой, калі ж той вечар". Чэслаў Мілаш узрушыўся слухаючы беларускія напевы, хаця, як большасць прысутных на спатканні журналістаў, ні словам не пракаментаваў прысутнасці беларускіх акцэнтаў мерапрыемства.

* * *

Юльян Казбярук

Беларускі музей у Гайнаўцы нечакана наведаў выдатны паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш. Шаноўны паэт, прабываючы ў Белавежы, пажадаў пабачыць і наш музей. Нам было вельмі прыемна. Сустрэча атрымалася сімпатычнай. Госць адразу пайшоў паглядзець экспанаты і затрымаўся там найдаўжэй. Усе экспанаты яго цікавілі, многа распытваў і многа сам гаварыў. Расказваў, што падобныя прадметы ён бачыў на сваёй роднай Віленшчыне, а тут у Гайнаўцы некаторыя экспанаты ён бачыць упершыню, напрыклад, гліняную цадзілку для мёду, драўляны такарны станок, які трэба прыводзіць у рух нагою, калаўротак, драўляныя колы для ровара, некаторыя формы народнага адзення і г.д. Пасля ў музейнай бібліятэцы адбылася сустрэча гасцей з супрацоўнікамі музея. На розныя пытанні Чэслава Мілаша і спадарожнічаючых яму гасцей адказвалі супрацоўнікі музея. Спатканне прайшло ў сардэчнай атмасферы. Мне, храністу музея, найбольш прыемны быў момант перад развітаннем, калі спадар Мілаш пахваліў маю музейную хроніку і вельмі сімпатычна я ў яе ўпісаўся. Спадар Мілаш напісаў:

*Як жа я рады, што Беларускі музей у Гайнаўцы паўстаў і што паступова развіваецца і багацее яго фонд. Мае самыя сардэчныя пажаданні далейшай паспяховай працы доўгія гады.*

*Чэслаў Мілаш*
*6 жніўня 1998 г.*

## Пакрыўджаныя і Трэцім, і... Трэцяй?

І вазьмі, просты вясковы чалавеча, дабіся ў нашых ветлівых бюракратаў тае аднаразовае кампенсацыі, якое дакладна дзесяць злотаў і шаснаццаць грошаў за кожны праведзены ў нямецкай няволі месяц. Многія махнулі на гэтыя грошы рукою, бо расходы на афармленне дакументаў могуць лёгка перавысіць квоту тае кампенсацыі.

[болей ☞ 3]

## Бела...рускі край

Экспанаты ў Музеі Янкі Купалы робяць вялікае ўражанне, калі наведвальніку вядомы палітычны і культурны кантэкст эпохі, у якой прыйшлося жыць беларускаму паэту. На жаль, дарма чакаць такіх інфармацый ад рускамоўных супрацоўнікаў музея. „Там усё напісана", — адказваюць.

[рэпартаж ☞ 4]

## Быў несумненна арыгіналам

Няма ўжо ў жывых Эдварда Шчасновіча, шматгадовага карэспандэнта „Нівы", аўтара славутых „Бабскіх фокусаў". Памёр 5 лістапада 1997 года. Пахаваны ён на каталіцкіх могілках у Шудзялаве. „Вельмі добра, што пішаце пра Шчасновіча, — кажа Вера Валкавыцкая. — Нам трэба і пасля смерці быць разам з нашымі карэспандэнтамі".

[успамін ☞ 5]

## Што ў бельскай культуры?

— З аматарскімі калектывамі я звязаны ўжо звыш трыццаці гадоў. Больш чым дваццаць гадоў працаваў з хорам „Васілёчкі", а ад 1990 года кірую гуртом народнай песні „Маланка". Ад 1976 года вяду ў Бельліцэ гурт „Дзявочыя ноткі", а ад 1984 года працую з калектывамі Пачатковай школы н-р 3, якія па-рознаму называліся — „Нашы дзеці", „Жучкі", а ад шасці гадоў „Жураўінка", — расказвае Сяргей Лукашук.

[інтэрв'ю ☞ 8]

## Свята ў Старым Корніне

Найбольш урачыстым святам у Старым Корніне і ваколіцы з'яўляецца дзень Успення Праведнай Анны, якая і ёсць нябеснай заступніцай меншай царквы. Памятаючы пра цудоўныя аздараўленні, прыязджае сюды многа людзей з усёй Беласточчыны.

[рэпартаж ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

**(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Вечарына на Rue de Gravilliers**

У другой палове дня хоць некалькі гадзін ахвяравалі мы на тое, каб прайсціся пешшу па гістарычных мясцінах у цэнтры Парыжа. Апекаваўся намі Ігар Лялькоў, які вучыцца ў дактарантуры Сарбонскага універсітэта і хутка будзе абараняць дысертацыю ў галіне гісторыі. Ён гісторык-архівіст, скончыў Беларускі універсітэт і хутка вяртаецца на Радзіму.

Спадар Лялькоў найперш скіраваў нас да сабора Парыжскай Божай Маці. Аглядалі мы гэты шэдэўр архітэктуры і думалася пра свае. Купілі дзве свечкі і паставілі каля іконы Божай Маці — адну за Беларусь, другую — за беларусаў Францыі. Хацелася як мага больш аглядаць вядомых мясцінаў, але час не дазваляў. Вечарам планавалася святочная імпрэза — сустрэча на Rue de Gravilliers.

У Парыжы было ўжо амаль лета, 24 градусы цяпла. У адчыненыя вокны кватэры далятаў шум вялікага горада. Напамінаў, што мы сапраўды ў цэнтры Парыжа. Мы — беларуская грамада ў сваім беларускім кутку, які не бачыў такога збору за ўвесь пасляваенны час. Так сталася бегам часу, што амаль зусім пачало заціхаць беларускае жыццё ў Францыі. І такі людны для гэтай сітуацыі збор вельмі цешыў. На дапамогу старэйшым прыйшла моладзь, шчыруюць маладыя дзяўчаты Вірджынія Шыманец і Аляксандра Гужон, якія нядаўна выдалі ў Парыжы кніжку для французаў, жадаючых пазнаёміцца з беларускай культураю і моваю. Актыўна ўключыўся ў справу новы эмігрант з Беларусі Уладзімір Палупанаў, які працаваў у Пасольстве Беларусі ў Францыі і папрасіў палітычнага прытулку ў гэтай краіне. Беларускую грамаду ў Парыжы дапоўніла і сямейка сп. Валянціна Сельвесюка, беларуса з Беласточчыны, які зараз працуе ў Францыі ад амерыканскай фірмы.

Вечарына атрымалася цёплаю, сяброўскаю, дала надзею на ўмацаванне беларускай прысутнасці. Дзяліліся думкамі, успамінамі, слухалі шчымлівыя аўтарскія песні Уладзіміра Палупанава, які з'яўляецца яшчэ і таленавітым беларускім бардам. Сумуе па Радзіме, на сабе зведае горкі прысмак эміграцкага лёсу, пра які калісьці спяваў у сваіх песнях. Разыходзіцца не хацелася. Дасць Бог, будуць новыя спатканні, будзе гучаць, звінець і надалей беларускае слова на ціхай парыжскай вуліцы.

Праз дзень пакідалі Парыж, ад'язджалі ад дому Міхася Навумовіча. Развіталіся з усімі амаль што са слязамі на вачах. Сп. Міхась ласкава праводзіў нас за горад на сваім аўто, каб хутчэй знайшлі патрэбную дарогу.

Далей рухаліся ў паўднёва-ўсходнім накірунку, у Нямеччыну. Апошні наш прыпынак у Францыі — невялікі прыгранічны горад Страсбург, добра вядомы ўсяму свету палітычны цэнтр Еўрапейскага Саюза. Агледзелі Палац кангрэсаў, побач з ім высокія мачты са сцягамі краін — членаў Еўрасаюза. Усе суседнія нам краіны прадстаўлены тут, няма толькі Беларусі. Горка, што нам зачынілі дзверы ў еўрапейскае супольніцтва народаў, дзе па праву месцазнаходжання мы павінны быць. Агледзелі, што адно месца ў ганаровым шэрагу яшчэ вольнае. Міжволі падумалася, што гэта для нас перахоўваецца.

***(працяг будзе)***

**Ганна Сурмач**

## Бульба хварэе

Як паведаміў дырэктар Інстытута бульбаводства Сяргей Банадысеў, гэтым летам „дынаміка росту бульбы" амаль такая ж, як і ў мінулым годзе. Гэта значыць, што леташняя сітуацыя з дэфіцытам „другога хлеба" беларусаў можа паўтарыцца.

Нагадаем, што летась бульба моцна не ўрадзіла, выкапалі яе катастрафічна мала. Па словах Сяргея Банадысева, гэта быў самы вялікі неўраджай за апошнія сорак гадоў. З кожнага гектара сабралі на 50-60 цэнтнераў менш, чым планавалася. У выніку ў гандлі здараліся перабоі з бульбай, а каштавала яна ў параўнанні з іншымі гадамі ў 2-3 разы даражэй, чым звычайна.

Спецыялісты-бульбаводы тлумачаць леташні неўраджай масавым захворваннем на фітафтароз. Маўляў, хваробу адразу не заўважылі, і таму шмат бульбы згубілася. Ці не атрымаецца тое самае сёлета?

Як нам паведамілі ў міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, калгасы і саўгасы добра падрыхтаваліся да барацьбы з фітафторай. З дзяржаўнага бюджэту было спецыяльна выдзелена 50 мільярдаў рублёў на набыццё неабходных хімікатаў. Таму ў міністэрстве спадзяюцца, што ўраджай будзе някепскі.

Але ж бульбу вырошчваюць не толькі ў калгасах і саўгасах. Па звестках таго ж міністэрства сельскай гаспадаркі, дзяржаўныя гаспадаркі засадзілі бульбай толькі 100 тыс. гектараў, а прыватныя — 600 тысяч гектараў. У мінсельгасхарчы лічаць, што калі хто і не справіцца з хваробай бульбы, дык гэта прыватныя гаспадары. І тады нас зноў чакае неўраджай.

Аднак прыватнікі, якія гандлююць на Камароўскім рынку, кажуць, што ўжо цяпер сабралі дастаткова бульбы, хопіць і на зіму. Праўда, гаворка ідзе толькі пра раннія гатункі. „А я ўжо даўно не саджу позняй бульбы, — кажа Ганна, яна прывезла свой тавар на Камароўку з-пад Слуцка. — Ранняя паспее вырасці, пакуль хвароба яшчэ не з'ела картафляніку".

Па словах дырэктара інстытута бульбаводства, летась у канцы ліпеня бульба ўжо не расла — зусім не было бацвіння. Сёлета — яшчэ працягвае расці. Як бы там ні было, але, як сказаў Сяргей Банадысеў, „рабіць прагнозы — самая няўдзячная справа". Будзем спадзявацца на лепшае.

**Міхась Карповіч**

*„Свабода" № 78, 31.07.1998 г.*

## Пісьменнікі выбіраюць паміж сустрэчай і банкетам

У канцы ліпеня тэрмінова збіралася Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў. Акрамя „рознага", разглядалася і самае важнае пытанне — аб сустрэчы з прэзідэнтам. (...) Шмат пісьменнікаў, членаў Рады, прынцыпова не пайшлі на гэтае пасяджэнне.

З прычыны адсутнасці новага старшыні СБП паэта Уладзіміра Някляева, які выехаў на „Славянскі базар" у Віцебск, пасяджэнне давялося весці пісьменніцы Вользе Іпатавай. Час ад часу ёй нешта падказваў, пабліскваючы залатой зоркай героя на грудзях, Іван Шамякін, які сядзеў побач.

Менавіта ён прапанаваў калегам па пяру вылучыць кандыдатуру свайго сябра, рускамоўнага паэта Браніслава Спрынчана на званне Заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Магчыма, за гэтую прапанову і прагаласавалі б, але супраць выступіў пісьменнік Уладзімір Арлоў. Ён сказаў, што „Браніслаў Спрынчан апошнім часам дэградаваў як паэт", а ў якасці пацвярджэння зачытаў цытату з верша Б. Спрынчана, надрукаванага ў часопісе „Беларуская думка":

А у водоемов Беларуси
Хищники гнездятся хорошенько.
Кто они? — Дознаться не берусь я,
Если не подскажет Лукашенко.

Можна быць упэўненым, што Аляксандр Рыгоравіч ацэніць творчую дзейнасць паэта і знойдзецца іншая арганізацыя, якая вылучыць Браніслава Спрынчана на заслужанага дзеяча культуры. Але сярод пісьменнікаў гэта прапанова не прайшла.

Пад канец пасяджэння Вольга Іпатава ветліва прапанавала: „Жадаючым сустрэцца з прэзідэнтам і выказаць свае прапановы прэзідэнту просьба загадзя запісацца". Некаторыя запісаліся.

Але ж самыя галоўныя спрэчкі пачаліся пасля, у неафіцыйнай абстаноўцы. Вядомы малады паэт сцвярджаў, што на сусттрэчу з прэзідэнтам трэба ісці, але ж на банкет, які наладзіць Аляксандр Лукашэнка пры ўмове, што пісьменнікі будуць добра сябе паводзіць на сустрэчы, — нельга. Ён казаў, што гэта будзе як „баль падчас чумы". Паэту запярэчыў празаік: „Я пяць гадоў не еў бутэрбродаў з ікрой. А што прэзідэнт будзе казаць, я ведаю загадзя".

Мо і сапраўды калі прэзідэнт пабачыць схуднелы твар празаіка, то зразумее, у якіх умовах жыве частка творчай інтэлігенцыі.

**Мікола Качан**

*„Свабода" № 78, 31.07.1998 г.*

## Галоўных грамадзянаў аштрафавалі

Па 12 мільёнаў 500 тысяч рублёў штрафу атрымалі лідэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч і Аляксандр Дабравольскі. Іх пакаралі за „арганізацыю несанкцыяванага шэсця" ў падтрымку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія знаходзяцца за кратамі.

23 чэрвеня, як раз калі ў лукашэнкаўскім парламенце праходзілі слуханні па правах чалавека ў Беларусі. Багданкевіч і Дабравольскі прайшлі па праспекце Скарыны з плакатамі. Разам з імі за свабоду дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Валерыя Кудзінава „несанкцыяваным чынам" выказаліся таксама Анатоль Лябедзька і Павел Знавец, але іх у суд пакуль не выклікалі. Супраць Багданкевіча і Дабравольскага сведчылі на працэсе міліцыянты. Суддзя Жанна Лявіцкая палічыла іхнія паказанні дастатковымі для асуджэння апазіцыянераў. Станіслаў Багданкевіч у судзе заявіў, што не парушаў закон, бо права на шэсце яму гарантуе канстытуцыя.

**Алесь Паўловіч**

*„Свабода" № 78, 31.07.1998 г.*

## Мірон не спіць!

Ахоўнікам правапарадку з Полаччыны зноў не дае спакою невядомы беларускі патрыёт, які працягвае ўпрыгожваць наваколле самага старажытнага з гарадоў Беларусі бел-чырвонабелымі сцягамі.

Месцам сваіх новых акцыяў полацкі паслядоўнік справы няўлоўнага Мірона абраў вайсковы гарадок Баравуха-1, які знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад Наваполацка. Спачатку беларускі сцяг з'явіўся над адрэзкам шашы Полацк — Верхнядзвінск каля ўезду ў гарадок. А ўжо на наступны дзень бел-чырвона-белае палотнішча годна залунала над чыгуначным вакзалам на станцыі Баравуха-1, прымацаванае да лініі электраперадач, якая знаходзілася пад напругай у 10 000 В. Застаецца невядомым, як мясцоваму апазіцыянеру ўдалося здзейсніць гэтую рызыкоўную акцыю, але супрацоўнікі міліцыі адразу ж здаліся, устрымаўшыся ад паўтарэння ягонага подзвігу — зняць сцяг аказалася абсалютна немагчымым.

Цэлы тыдзень вайсковы гарадок жыў пад старажытным нацыянальным беларускім сцягам. І толькі праз гэтыя сем дзён, з-за моцнага ветру, які пасунуў палотнішча да слупа, супрацоўнікам органаў унутраных спраў удалося ліквідаваць небяспечную „крамолу" з вачэй электарата.

**Гандрусь Стрэмка**

*„Пагоня", 23.07.1998 г.*

## Бензіну не хапае

На аўтазапраўках аб'яднання „Магілёўаблнафтапрадукт" пачалі прадаваць толькі па 20 літраў бензіну „ў рукі".

Як тлумачыць адміністрацыя, абмежаванні ўведзеныя, каб не дапусціць вывазу паліва за межы вобласці. Напрыклад, па звестках аб'яднання, толькі жыхары Шклоўскага раёна вывозяць па некалькі сотняў літраў у дзень у Расію.

Але ўвядзенне 20-літровай нормы не мае рэальнага сэнсу. Даходзіць да смешнага. На аўтазапраўках (калі бензін увогуле ёсць) прадаюць столькі, колькі патрабуе пакупнік, але па частках — па 20 літраў.

**Сымон Глазштэйн**

*„Свабода" № 78, 31.07.1998 г.*

# Хай будуць прыкладам



*Шлюб Альжбеты Тамчук і Дарафея Фіёніка.*

Шлюб Альжбеты Тамчук і Дарафея Фіёніка адбыўся шырокім рэхам па Бельску-Падляшскім і наваколлі. І не толькі таму, што маладую пару вянчаў сам епіскап бельскі Грыгорый і чатырох святароў. Маладыя — вядомыя ў асяроддзі як энтузіясты беларускай этнаграфіі.

— Людзі выходзілі раней з працы, каб паглядзець гэтае вяселле, — сказала мне адна бяльшчанка (шлюб адбыўся ў пятніцу 7 жніўня г.г.).

У народ пайшлі чуткі, што малады будзе вянчацца ў лапцях. Іншыя спадзяваліся пабачыць Дарафея Фіёніка як едзе да вянцу конямі.

А ў адлеглым Грабаўцы прыдумалі, што вясельнікі будуць карыстацца драўлянымі лыжкамі.

Вяселле атрымалася слаўнае, хаця не было лапцяў, драўляных лыжак і коней. Былі затое абрадавыя спевы, смачныя каравай (на якія пайшла ўжо ў Бельску мода), быў торг за куфар маладой і прыданне. На вяселлі гуляла міжнародная кампанія, якой падыгрываў да танца Сцяпан Копа і слаўныя „Прымакі”. А цэласцю кіравалі натуральна дасціпныя і красамоўныя маршалкі: Сяргей Нічыпарук і Янка Мордань.

Прыемна адзначыць, што на вяселлі гуляла шырокая грамада „Сустрэч «Зоркі»”, а гітам мерапрыемства сталася песня XII Сустрэч (на словы Яўгеніі Янішчыц і музыку маладой пары) „Пачынаецца ўсё з любві”.

— Хай ваша вяселле будзе не толькі працягам нашай слаўнай беларускай, падляшскай традыцыі, але і прыкладам для іншых, — сказаў маршалак Сяргей Нічыпарук.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# Пакрыўджаныя і Трэцім, і... Трэцяй?

Фонд „Польска-нямецкае яднанне” ветліва аб'явіў аб магчымасці выплаты аднаразовай кампенсацыі асобам пакрыўджаным пад нямецкай акупацыяй у час апошняй вайны, а калі яны звярнуліся за ёю ў Фонд, сталічныя чынушы ветліва ім адказалі: „Fundacja Polsko-Niemieckie Pojednanie uprzejmie zawiadamia, że Komisja Weryfikacyjna Fundacji, realizując uchwałę 3/96 Rady Fundacji z dnia 21.11.96, po dokonaniu sprawdzenia dokumentów znajdujących się w złożonym wniosku, stwierdza, że istnieje możliwość przyznania dodatkowej wypłaty, jeśli zostanie uzupełniona dokumentacja. (...) Pomoc może być przyznana na podstawie zaświadczenia instytucji emerytalno-rentowej pod warunkiem dołączenia dokumentów potwierdzających doznane prześladowania. (...) Załączone do wniosku oświadczenia świadków powinny być uzupełnione dokumentami spełniającymi wymogi regulaminowe Komisji Weryfikacyjnej. (...) Wobec powyższego prosimy o uzupełnienie dokumentacji w terminie 60 dni od daty otrzymania niniejszego pisma”.

Вельмі *uprzejmie*. Яшчэ сярод нас жыве крыху людзей, якія ў час сваёй маладосці былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію, або спазналі гора ў ваенным палоне. Ну, і некаторыя з іх падаліся „uzupełniać dokumenty”. Вось аднаму з іх, жыхару Гарадзіска, што ў Нарваўскай гміне, у беластоцкім Аб'яднанні асоб пакрыўджаных Трэцім Рэйхам (Stowarzyszeniu Osób Poszkodowanych Przez Trzecią Rzeszę) сказалі, што не могуць яму выставіць патрэбныя дакументы, бо ў яго яшчэ „бальшавіцкі” збавідоўскі ветэранскі білет. Чалавеку восемдзесят восем гадоў, не ў сілах яму цяпер бегаць па беластоцкіх бюракратычных установах дзеля толькі таго, каб выставілі яму такія ж дакументы, толькі з іншай пячаткаю! Ён жа, змабілізаваны ў пачатку вайны ў **Польскае** Войска, правёў у палоне амаль шэсць гадоў! Мог бы хто падумаць, што сённяшніх беластоцкіх патрыётаў-бюракратаў усхвалюе змаганне ў Польскім Войску. Дудкі! Яго суседка, якая правяла толькі трынаццаць месяцаў на прымусовых работах, даведалася ў той жа беластоцкай установе, што гэтая ўстанова не займаецца тымі кампенсацыямі і адпраўлялі яе ў Варшаву. І пракаменціравалі яшчэ, што ў Варшаве ствараюць штучныя бар'еры пакрыўджаным дзеля таго, каб прысвоіць іх грошы сабе: за што ж тыя варшавякі дамы сабе стаўляюць?!

І як тады „uzupełnić dokumenty”? Можа сведкі дадуць паказанні; вядома, калі тыя сведкі яшчэ могуць іх даваць. Фонд прызнае „oświadczenia co najmniej dwóch świadków, których osobisty udział w zdarzeniach objętych wnioskiem jest udokumentowany. Do oświadczeń świadków muszą zostać dołączone ich własne dokumenty, potwierdzające, że przebywali oni w tym samym czasie i miejscu, co osoba na rzecz której składają oświadczenia”.

І вазьмі, просты вясковы чалавеча, дабіся ў нашых ветлівых бюракратаў тае аднаразовае кампенсацыі, якое дакладна дзесяць злотаў і шаснаццаць грошай за кожны праведзены ў нямецкай няволі месяц. Многія махнулі на гэтыя грошы рукою, бо расходы на афармленне дакументаў могуць лёгка перавысіць квоту тае кампенсацыі. І тыя грошы камусьці астануцца, як на гэта намякаюць у Беластоку; мо *мёртвым душам*...

А я вось маю прапанову нашым паслам, якія вельмі шчыра і сардэчна дбаюць пра свой электарат на розных мазалістых ім фэстах. Мо яны крыху пацікавяцца гэтаю справай. Яны ж у Варшаве бываюць, з міністрамі Трэцяй Рэчы Паспалітай бачацца, а нават і сустракаюцца. Мо пахадайнічалі б яны за сваіх, а дакладней гаворачы — за Цімашэвічавых, выбаршчыкаў, напрыклад, у міністра па справах ветэранаў. Ён — палымяны абаронца пакрыўджаных, а да таго ж чалавек вельмі энергічны; як пішуць некаторыя сталічныя газеты, ён вельмі хутка і карысна афармляе грошы, належныя ветэранам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# З компасам праз пушчу

Сёлета Аддзел Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства (ПТТК) у Гайнаўцы святкуе 35-годдзе сваёй дзейнасці. Паспяхова прапагандуе, між іншым, актыўны адпачынак і краязнаўства, а таксама кваліфікаваны турызм: пешы, веласіпедны, матацыклетны і горны.

Арганізоўвае ён шматлікія мерапрыемствы. У асноўным гэта экскурсіі ў запаведнікі Белавежскай пушчы, у Прыродазнаўча-лясны музей у Белавежы ды ў Беларускі музей у Гайнаўцы, а таксама прыродазнаўча-дыдактычнымі сцежкамі (Гарцэрская горка, Зубровыя рэбры, Шлях каралеўскіх і княжацкіх дубоў, Месцы моцы, Тапіла).

Гайнаўскія дзеячы ПТТК наладжваюць, між іншым, паходы ў грыбы, зімнія прагулкі санкамі па Белавежскай пушчы.

Старшынёю Праўлення Аддзела ПТТК у Гайнаўцы з'яўляецца Станіслаў Мяжвінскі, а старшынёю гайнаўскага Гуртка праваднікоў — Януш Анціпаў.

**(гай)**

# Неабходна арганізаваць збыт

— Так далей гаспадарыць ужо было немагчыма, — кажа мой махнацкі сусед, сябра са школьнай парты Мікалай Далінскі. — У месяц траціў я тысячу злотых, калі замест малака экстра класа адстаўляў у малачарню малако трэцяга сорту. Затым быў я прымушаны купіць, узяўшы крэдыт у банку, аўтаматызаваны французскі 420-літровы халадзільнік. Схалоджвае ён малако да 4-6°C, мяшаючы яго мяшалкай кожныя 15 мінут.

Да Міколы Далінскага кожны другі дзень з Акруговага малочнага кааператыва з Гайнаўкі прыязджае цыстэрна і забірае малако на завод. Двойчы ў месяц даследуюць малако у лабараторыі, выяўляюць колькасць бактэрый і вызначаюць сорт малака.

— Шмат клопату каля гэтага малака, — кажа Мікалай, — а з боку кааператыва ніякага абучэння сялянам не праводзіцца. Асталося вучыцца на памылках, а такая навука — дарагая справа. Хацеў я дакупіць некалькі гектараў сенажацяў, — расказвае далей сусед, — каб забяспечыць гадоўлю папашай і для гэтага хацеў узяць так званы „танны” крэдыт у банку. Аказваецца, што на „танныя” крэдыты няма грошай. Дзяржава, хаця дэкларавала такі крэдыт, аднак яго не забяспечыла. І як тут можна што планаваць! Бо калі ўжо хто ўвайшоў у інтэнсіўную гаспадарку, іншага выхаду няма. Трэба яе толькі развіваць.

Вазьмі нашага сябру Алёшу Г. — быў шаферам, так як і я, а цяпер на пенсіі. Можа трымаць на свае патрэбы кароўку і парсючка і жыць без клопатаў. Каб не мая жонка Надзя, і я да гэтай пары быў бы ўжо пенсіянерам — а так толькі турбот прыбывае, хоць фізічна лягчэй гаспадарыць, бо ў мяне поўная механізацыя сельскагаспадарчых работ. Праўда, машыны таксама трэба было б выслаць на пенсію і аднавіць машынны парк.

Дзякуй Богу, што пакуль ёсць здароўе, дык можна ад світання да цямна і ад студзеня да снежня таптацца каля гаспадаркі. Апрача гадоўлі кароў сею збожжа, саджу бульбу, гадую свіней. Цяжка спецыялізавацца ў гадоўлі кароў. Няхай толькі Гайнаўскі малочны кааператыў, напрыклад, збанкрутуе, а так можа быць, то я астануся голы і босы.

Знаеш, Міша, што мне асабіста не дае спаць? Калі збяру восенню ўраджай, то мушу думаць, як яго збыць. Проста збыць, за марны грош, як кажуць, няма праблемы. Але каб прадаць і яшчэ зарабіць — гэта ўжо праблема.

Аказваецца, што праблемай для гаспадароў з'яўляецца збыт сельскагаспадарчых прадуктаў. Пры інтэнсіўнай гаспадарцы гэта немалая праблема, таму што цяжка аднаму чалавеку быць і вытворцам і гандляром. Трэба ж перакінуць сотні тон ад гаспадара да пакупніка. Перш за ўсё трэба гэтага пакупніка знайсці. Адным словам, існуе неадкладная патрэба арганізаваць такі гандаль. Патрабуе ён іншых ведаў, чым вытворчасць малака класа экстра. Можа мець форму суполкі ці іншай арганізацыі. Такая суполка павінна існаваць на месцы, у вёсцы, блізка гаспадароў, а працаваць у ёй — сыны і дочкі гэтых жа гаспадароў. Працаваць восем гадзін, атрымліваць месячную зарплату, жыць у вёсцы, выпісваць не толькі „Ніву” і „Часопіс”, а калі трэба, ездзіць у горад ці на Мальёрку, а калі трэба заступіць бацькоў на гаспадарцы, каб яны маглі паехаць на Мальёрку адпачыць. Так больш-менш дзейнічае вёска ў Еўропе.

Хто паможа арганізаваць такія суполкі па вёсках, хто ўвогуле паможа сялянам, той будзе існаваць гадамі на палітычнай сцэне ў беларускім асяроддзі ўсходняй Беласточчыны. Гэта першы ключ да поспехаў у палітыцы і выбарчых кампаніях.

Усім апанентам, якія кажуць, што гэта наіўныя думкі, хачу сказаць, што нічога не разумеюць або не хочуць зразумець і што мінулі ўжо часы, калі дзяржава і ўраднікі клапаціліся і займаліся ўсім: ад шнурка для снапавязалкі да туалетнай паперы.

**Міхась Куптэль**

# Бела...рускі край

**Паездка ў Беларусь заўсёды выклікае пытанне: ці гэтая краіна калі-небудзь стане бацькаўшчынай для беларускага народа; ці беларускі народ, не люд, стане гаспадаром у гэтай краіне.**

**„Мы всё понимаем"**

Не пашанцавала мне падчас апошняй паездкі спаткаць у Менску незнаёмага чалавека, які захацеў бы гаварыць са мною на беларускай мове. У дзяржаўным архіве, нацыянальнай бібліятэцы, рэстаране, краме паўсюдна гучыць руская мова. Калі часам узнікалі нейкія ўскладненні ў кантактах з супрацоўнікамі мясцовых устаноў, у мяне складалася ўражанне, што людзі, з якімі я размаўляў, не разумелі маёй мовы. Тады я прабаваў ім тлумачыць па-руску, але яны, пачуўшы маю расейшчыну, хутка і ветліва стараліся паінфармаваць: „Мы всё прекрасно понимаем что вы говорите на белорусском языке". У краме, у якой я некалькі разоў купляў харчовыя прадукты, „девушка" нават спытала: „Вы наверно акцёр, всё так говорите и говорите на белорусском языке". Найчасцей, аднак, беларускамоўных успрымаюць як замежнікаў. Невядома чаму жыхарам Менска беларуская мова асацыюецца з Беласточчынай ці Віленшчынай. Наогул грамадзяне Беларусі разумеюць беларускую мову, некаторыя нават маглі б валодаць ёю не горш чым рускай, але няма для гэтага адпаведнай атмасферы. Беларускамоўны чалавек вылучаецца з натоўпу, і, на жаль, успрымаецца акружэннем так як і ў Беластоку. Часам нейкі маскаль на гук беларускай мовы нават адкажа: „Ни черта не понимаю, говорите нормально". У Беларусі свабодна дзейнічаюць фашыстоўскія расейскія арганізацыі, таму і нічога дзіўнага, што беларуская мова асталася толькі ў салонах, у элітарных інтэлігенцкіх установах.

**Музей Янкі Купалы**

Ідучы ў Музей Янкі Купалы я ўяўляў сабе, што там напэўна знаходзіцца святыня беларускасці, што сярод супрацоўнікаў і наведвальнікаў сустрэну самых паклоннікаў нацыянальнай ідэі, беларускага слова. Наведвальнікаў не было ўвогуле, а дзве „женщины", якім я сваім з'яўленнем перабіў нейкую цікавую дыскусію, як бы хацелі сказаць: „Здесь нам никакие гости не нужны". Гадзіну вандраваў я адзінока сярод дакументаў, якія адлюстоўваюць нашу навейшую мінуўшчыну. Янка Купала (Іван Луцэвіч) пачаў дзейнічаць у беларускім нацыянальным руху ў 1908 годзе, быў адным з вялікіх стваральнікаў адраджэнскага руху на пачатку нашага стагоддзя.Ператрываў разню беларускіх інтэлектуалаў пры канцы трыццатых гадоў. Пару гадоў жыў даўжэй за свіх сяброў літаратараў. Дакументы, якія дэманструюцца ў музеі, паказваюць, аднак, якую высокую цану вымушаны ён быў заплаціць за дазвол з боку сталінскіх апрычнікаў на прадаўжэнне яго біяграфіі. Малады Купала — гэта энтузіяст свабоды, свае беларускай дзяржаўнасці, перажываючы боль з прычыны ганебнага падзелу краіны паміж палякамі і бальшавікамі і новай акупацыі, якая забрала толькі што народжаную надзею. Купала ў апошніх гадах свайго жыцця — гэта чалавек зламаны, якога творчасць пярэчыць ідэям яго маладосці. Не дапамаглі яму нават гімны, пісаныя на славу сталіншчыны і камунізму. Бальшавікі не выбачалі нікому грахоў маладосці. Пераносілі толькі тых, якія любоў да сталінізму высмакталі з матчыным малаком.



Мал. Алега КАРПОВІЧА

Экспанаты ў Музеі Янкі Купалы робяць вялікае ўражанне, калі наведвальніку вядомы палітычны і культурны кантэкст эпохі, у якой прыйшлося жыць беларускаму паэту. На жаль, дарма чакаць такіх інфармацый ад рускамоўных супрацоўнікаў музея. „Там всё написано", — адказваюць.

**Няма ніякай апазіцыі**

У Менску зрэдку людзі глядзяць беларускае тэлебачанне. Болшасцю ўспрымаецца яно як хлуслівае, прапагандысцкае, архаічнае. Стандартнай сталася ўжо заява: „Я не гляджу лукашэнкаўскага тэлебачання". Не абазначае гэта — так як было ў выпадку Польшчы падчас ваеннага становішча — што грамадства апынулася пад уплывам апазіцыі. У Менску ўсе проста глядзяць каналы расейскага тэлебачання, перажываюць падзеі, якія адбываюцца на маскоўскай палітычнай сцэне, бачаць свет не з пункту гледжання грамадзяніна Беларусі, але не існуючага Савецкага Саюза. Звычайны чалавек — студэнт, рабочы, лекар, які чытае рускамоўную камерцыйную прэсу, нічога наогул не ведае пра існаванне апазіцыі. Яна — паводле яго ўяўленняў — скончылася разам з выездам з Беларусі Зянона Пазьняка. Пра іншых апазіцыйных палітыкаў — можа апрача Шушкевіча — ён нічога не ведае і найгоршае: не надта хоча нешта ведаць. Статыстычны Іван Іванавіч чуў пра Беларускі народны фронт, часам нават заяўляе, што быў яго вялікім прыхільнікам, але цяпер ён няўпэўнены ў яго існаванні. Пра іншыя арганізацыі наш Іванавіч мае вельмі цьмянае ўяўленне.

Незадаволеныя, а іх прыгнятаючая большасць, не маюць вакол каго ці чаго яднацца. Няма ніякай канкурэнтнай для Лукашэнкі структуры, якая магла б стварыць надзею на змену прынамсі ўнутранай палітыкі. Лідэры апазіцыі заняты перш за ўсё сваімі дробнымі справамі. Няма сярод іх нікога, хто мог бы прадставіць перспектыву развіцця нацыі і дзяржавы. Некаторым праўдападобна існуючая сітуацыя проста падабаецца. Больш пра іх ведаюць за мяжой чым у Беларусі. Праз год павінны адбыцца другія прэзідэнцкія выбары. Ніхто ў Менску не сумняваецца, хто на іх пераможа.

**Яўген Міровіч**

# Як нас бачаць там і сям



*Леакадзія Мілаш (Летува), Мікола Кузьняцоў (Латвія), Міра Лукша (Беласточчына), Аўгіння і Лявон Кавалюкі (Санкт-Пецярбург) на Гары Трох Крыжоў у Вільні.*

Свядомыя беларусы, дзе б яны не былі, маюць свае цэнтры душы — малыя і вялікія айчыны. Вось „Вільня — гэта горад з светлай аўрай і чыстабеларускай кармай. Ён як акумулятар вялікай энергіі для нас", — сказаў доктар Мікола Кузьняцоў з Латвіі на II З'ездзе беларусаў Балтыі. Малады гэты навуковец і практык фармацэўт вядомы ва ўсім свеце, ягонымі доследамі цікавяцца ў Еўропе і Амерыцы, ганарыцца сваёй беларускасцю, але бывае, што не зусім прэстыжна сёння прызнавацца да гэтага. „На сустрэчы прадстаўнікоў меншасных арганізацый Балтыі, — працягвае М. Кузьняцоў, — кожны з гонарам казаў, хто ён. Калі я сказаў, што я — беларус, людзі паглядзелі на мяне з нейкім жалем ці шкадобай, «ну, нічога», маўляў, «што ж зробіш». На ўсім адсвечваецца сітуацыя ў Беларусі і воблік сярэдняга беларуса з рэспублікі".

Даводзіцца карыстацца і ў Латвіі дапамогай Бацькаўшчыны, якая **павінна** дапамагаць дыяспары ці аўтахтонам на памежнай тэрыторыі; яны ж межаў паміж дзяржавамі не акрэслівалі, жывуць на сваім ад вякоў. Савецкі Саюз да таго ж параскідаў людзей па „блізкім" замежжы, высылаў на працу. Людзі абжыліся, загнездзіліся, і добра яшчэ, што не асіміляваліся. Вось у Рызе адкрыта беларуская школа. Прывезлі ёй падарунак-дапаможнік з Беларусі — камп'ютэр. Але, каб яго атрымаць, беларусы павінны былі адрачыся ад свайго гістарычнага сцяга! Доўга давялося намаўляць Вячку Целеша, каб зняў той адыёзны бел-чырвона-белы сцяг, ну, хай хоць на пару гадзін, пакуль госці з Беларусі будуць у горадзе. Сцяг, вядома, вярнуўся на сваё месца. А мы адкуль ведаем падобнае? У незалежнай Польшчы, у незалежнай арганізацыі беларусаў тутака, ці такі ж сцяг вярнуўся на сваё месца? А дзе цяпер тая цудоўная Пагоня, што красавалася на сцяне ў святліцы? Зачаста хіба ў нас бывае ў Беластоку госці з РБ, трэба было б нашы святыя сімвалы здымаць што і раз, калі з падарункамі прыедуць!..

Беларусы кажуць шмат цёплых слоў і пра Беласток, як яшчэ адзін з магутных сардэчных цэнтраў на Зямлі, куды прыязджаецца „падыхаць беларускасцю". Ці мала хто мае надзею, што ад нас тут пачнецца новая хваля адраджэння! Але некаторыя са шчырых беларусаў дазволілі зняць Пагоню са сцяны сваёй арганізацыі, а хочуць узнесці яе на помніку пасярод горада! Зачыніся ў каморы, калі молішся на вартасці, а не выстойвай на скрыжаванні вуліц, каб усе бачылі тваю праведнасць! (Выстойванне на вуліцы мае яшчэ іншыя асацыяцыі). А па пладах ягоных пазнаеце дрэва. Хто мае вушы, няхай слухае, а хто вочы... А хто ўмее, хай чытае, злот дзвяццаць не пашкадуе, не толькі дарам атрымаўшы як абгортку на расаду. Бо што пасадзіш, тое і пажнеш (папытайцеся, хто са славутых дзеячаў *навучыўся размаўляць* са сваім дзіцём на роднай мове). Асабліва, калі пнешся на слуп з аб'явамі, дзе табе могуць і вусы дамаляваць, і вока пракалоць, і зінтэрпрэтаваць па-свойму. І язык трымай надзейна за плотам зубоў, бо ляпнеш, і збіраць рыдлёўкай прыйдзецца ці то тое, што ты наляпаў, ці сашкрабаць цябе самога. Так што ведай пан, у якую газету трапляеш! І што цябе чытаць будуць або гаварыць (цытуючы цябе самога), што „прачыталі між радкамі".

**Міра Лукша**

*Фота Алеся Палескага*

# Быў несумненна арыгіналам

**Няма ўжо ў жывых Эдварда Шчасновіча, шматгадовага карэспандэнта „Нівы", аўтара славутых „Бабскіх фокусаў". Памёр 5 лістапада 1997 года. Пахаваны ён на каталіцкіх могілках у Шудзялаве.**

**Чытаў шляхце „Ніву"**

У канцы ліпеня наведала я Шчасновічы непадалёк Шудзялава — шляхецкую аколіцу на Сакольшчыне, родную мясціну Эдварда Шчасновіча.

Яшчэ ў 80-я гады ў „Ніве" з'яўляліся артыкулы пра жыццё-быццё жыхароў падсакольскіх мясцін, не толькі праваслаўных. Эдвард Шчасновіч па веравызнанні быў католікам, нашчадкам шарачковай шляхты. Быў верным і шматгадовым паклоннікам „Нівы". Дзякуючы яму беларуская газета трапляла ў хаты тамашніх рымскіх католікаў. Нярэдка шляхціцы ставаліся героямі допісаў, як Леанард Шчасновіч (са Шчасновіч), перадавы гаспадар у наваколлі.

З Эдвардам Шчасновічам пазнаёмілася я чатыры гады назад, калі збірала матэрыял пра кампазітара Яна Тарасевіча. Менавіта карэспандэнт „Нівы" як першы пасведчыў існаванне шындзельскага кампазітара. Пакінуў таксама надзвычай займальныя ўспаміны пра класіка беларускай музыкі. Эдвард Шчасновіч быў таленавітым апавядальнікам. Любіў расказваць пра сябе, пра свае праблемы, радасці. Карыстаўся пры гэтым вобразнай, багатай, крынічнай беларускай мовай. Сам навучыўся беларускай пісьменнасці, як гаварыў, дзякуючы „Ніве". З 1957 г. працаваў на пошце, дзе і сутыкнуўся з нашай газетай. Шматлікія конкурсы на лепшага пісьманосца заахвоцілі яго стаць карэспандэнтам „Нівы". Пісаў, перш за ўсё, пра жыццё. Расказваў, як чытаў нашу газету сваім аднавяскоўцам у час сустрэч *кола ружаньцовага*. Таксама, ад дошкі да дошкі, чытаў кожны нумар сваёй жонцы Галене.

**Вясковы кніжнік**

— Вельмі добра, што пішаце пра Шчасновіча, — кажа Вера Валкавыцкая. — Нам трэба і пасля смерці быць разам з нашымі карэспандэнтамі. Эдварда Шчасновіча я запамятала як сімпатычнага і эмацыянальнага чалавека. Ён быў кніжнікам, вясковым асветнікам. Да вайны папулярызаваў сярод сялян літаратуру тыпу „Żelazna maska". Да „Нівы" меў асаблівыя адносіны. Ягоны цыкл „Бабскія фокусы" карыстаўся шалёнай папулярнасцю. Па вёсках паўтаралі яго гумарэскі як свае. Шчасновіч пісаў пра жаноча-мужчынскія зносіны. Памятаю такі допіс пра бабніка-недарэку, падпісаны псеўданімам „Сульвестар". Раней я напісала рэпартаж пра Сыльвестра з Новага Беразова. І калі герой майго рэпартажу пабачыў артыкул Шчасновіча падпісаны „Сульвестар", палічыў, што ў „Ніве" з яго насміхаюцца.

Шчасновіч як ніхто ўмеў перадаць народны гумар. Яго допісы былі інтэлігентна і культурна напісаны.

— Пачаў супрацоўнічаць у 60-я гады, — кажа Георгій Валкавыцкі. — Часта засакрэчваўся, карыстаўся псеўданімамі як „Сук", „Ніяк".

Былы рэдактар „Нівы" запамятаў Шчасновіча як несумненнага арыгінала.

— Ён, як адзін з нямногіх, пісаў пра секс. А ў тыя часы гэтая тэма бударажыла многіх. Эдвард Шчасновіч час ад часу спыняў свае допісы. Але ніколі не ўмеў пакрыўдзіцца на „Ніву".

**Нябожчык з добрай усмешкай**

У апусцелым хутары, дзе стаіць двор Шчасновічаў, сустрэла я самотную цётку Галену. Успамін пра памёрлага не быў лёгкім для маёй субяседніцы. Галена Шчасновіч яшчэ не змірылася са смерцю мужа. На дадатак перажыла другую трагедыю. Калі вярталася фурманкай з касцёла, здарылася дарожная катастрофа. Зараз цяжка ёй адной упраўляцца.

— Добра, што дзеці наведваюць. Інакш не вытрымала б у сваім горы, — кажа цётка Галена.

Эдвард Шчасновіч памёр на 85-м годзе жыцця, пасля доўгай хваробы. На здымках з паховін уразіла мяне добрая ўсмешка на твары нябожчыка.

— Ён такі быў, — кажа цётка Галена. — Заўсёды, каб нейкі фокус прыдумаць або нешта смешнае сказаць.

**Ганна Кандрацюк**

# Каляровы зборнік

На днях выйшаў з друку чарговы паэтычны зборнік Віктара Шведа „Вершы Натальцы"*. Як паказвае сам загаловак, змешчаныя ў ім вершы адрасуюцца дачцэ паэта Наталлі. Частка гэтых вершаў вядомая ўжо нашым чытачам, асабліва тым наймалодшым, паколькі на працягу некалькіх апошніх гадоў друкаваліся яны ў рубрыцы „Вершы Віктара Шведа" на старонках „Зоркі".

Зборнік падзелены на пяць раздзелаў храналагічна-тэматычнага характару. У іх знаходзім вершы, прысвечаныя чарговым юбілеям дачушкі, яе знаходжанню ў дзіцячым садзіку, размовам і супольным назіранням за акружаючым светам, падарожжам і прыгодам. Многія вершы вылучаюцца дзіцячым гумарам, які вынікае з дасло́ўнага разумення гераіняй зборніка моўных зваротаў дарослых.

„Паэтычныя тэксты Віктара Шведа, што скласліся на том „Вершы Натальцы", — піша ў пасляслоўі Тэрэза Занеўская, — становяць новую з'яву ў беларускай літаратуры, так як у яе гісторыі не было дагэтуль падобнага зборніка". Далей аўтарка пасляслоўя сцвярджае, што маленькія беларускія чытачы ўспрымуць „Вершы Натальцы" добразычліва, таму „што ў многіх з іх знойдуць яны самі сябе, сваю штодзённую рэчаіснасць, першыя дасведчанні і адчуцці, а таксама каляровы свет дзіцячых мараў".

У гэтым канкрэтным выпадку колеры выступаюць не толькі ў марах малой Натал́ькі. У адрозненні ад ранейшых зборнікаў паэта, апошні ўпрыгожваюць каляровыя малюнкі Тацціяны Місіюк. Партрэцік гераіні вершаў з васількамі здобіць таксама цвёрдую глянцаваную вокладку кніжкі. Выдаўцом гэтага элегантнага зборніка з'яўляецца беластоцкі „Orthdruk", а спонсарамі выступілі гарадскія і гмінныя ўправы Беластока, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных, Кляшчэляў, Нарвы, Нараўкі і Чаромхі.

**Віталь Луба**

* Віктар Швед, *Вершы Натальцы*, Мастачка: Тацціяна Місіюк, Беласток 1998, сс. 112.

# Наша пошта

Дарагая „Ніва", гэта ж табе ўжо 25 год! Як гэты час бяжыць, як вада ў рацэ. Твае нарадзіны і хрысціны адбыліся ў 1956 годзе. Я тады быў начальнікам пошты ў Бабіках ды, як кажуць, у сіле веку, а зараз — 8 год на рэнце інвалідскай другой групы. Калі ты, „Ніва", нарадзілася, я цябе вадзіў за ручку ў беларускія хаты пад сялянскія стрэхі. Ты была нясмелая, вядома, „дзіцё". А як ужо абдужала трошкі, пачала весялей заходзіць, ды не толькі ў беларускія хаты, але і ў польскія, разам і маёй хаты не абмінала.



Помню, як прыязджалі ў камандзіроўку тыя людзі, якія цябе стварылі, каб цябе распаўсюджваць сярод людзей.

Дарагая „Ніва", мы, твае карэспандэнты і чытачы, перажываем з радасцю твой юбілей, і знай, што не толькі беларусы цябе любяць, але і шмат польскіх людзей. Цябе чытаюць Валянтовіч Юрэк з Хмялеўшчыны, Томчак Дануся з Бабікаў. Ад пачатку тваіх нарадзін чытаюць у Кнышэвічах: Ярашэвіч Павел, Бародзіч Сямён (ужо памёр), але далей выпісвае яго сын, і Богус Галіна. Ёсць і ў Гаркавічах і ў Слоі твае чытачы, а ў Сухінічах цябе шмат купляюць у клубе „Рух". Віншую цябе з сярэбраным юбілеем і жадаю дачакаць залатога. Хоць я да таго часу ўжо не дажыву.

Дарагая „Ніва"! Ці ты ведаеш, чаму я цябе называю „дарагая"? Не думай, што можа таму, што ты каштуеш 2 зл. Не! Я цябе таму называю дарагою, што ты атрымала высокія ўзнагароды. Мяне адно ўсё ж нуртуе, ды можа не толькі мяне. Чаму ты такая худзенькая? Ты ж жаночага роду, за столькі год павінна патаўсцець. Я гэта гаварыў на з'ездзе карэспандэнтаў, але ж, відаць, нічога не выйдзе. Можа, каб больш чытачоў на гэту тэму адазвалася? Тады можа ты, „Нівачка", патаўсцела б.

**Эдвард Шчасновіч**

*„Ніва" № 17(1313), 26.04.1981 г.*

# Віленскія мастакі

У гонар II З'езду беларусаў Балтыі 26 ліпеня 1998 г. у будынку і пры дапамозе Летувіскага фонду культуры з удзелам беларускіх мастакоў Таварыствам беларускай культуры ў Летуве была арганізавана выстаўка. Арганізатары выставы спадзяюцца ў недалёкім будучым стварыць сваю ўласную галерэю, аснову якой складуць разнастайныя творы таленавітых тутэйшых мастакоў-беларусаў: Крысціны Балаховіч (г. нар. 1959), Станіслава Зялёнкі (1959), Уладзіміра Кузьменкі (1938), Эдуарда Падбярэзскага (1947), Андруся Балаховіча (1965), Алега Аблажэя (1954) і іншых.

— Наш час не з'яўляецца дужа спрыяльным для мастакоў: творчую свабоду абмяжоўвае несвабода матэрыяльная. Аднак варта памятаць, што мастацкія пуціны ніколі не былі лёгкія, — сцвярджаюць праўду, актуальную не толькі ў Летуве ці Беларусі віленскія мастакі. — Мастакі-беларусы з Вільні ідуць кожны сваёй сцежкай, розныя былі і дарогі, якія прывялі нас у мастацтва. Але ўсё ж аб'ядноўвае нашых мастакоў адметны беларускі светапогляд, які грунтуецца на сувязі з натурай, прыродай, імкненні адлюстраваць яе прыгажосць...

Бадай што самы вядомы віленскі беларускі мастак гэта Станіслаў Зялёнка, асоба амаль легендарная. Апроч жывапісу вядомы сваімі востракрытычнымі вершамі. Нягледзячы на тое, што малюе ў асноўным краявіды, абапіраецца, як правіла, на сваю фантазію. Аматарам мастацтва ў Вільні вядомыя яго цудоўныя графічныя працы з відамі Вільні, а таксама касмічныя выявы. Ён неблагі партрэціст і аўтар кніжных ілюстрацый.

Уладзімір Кузьменка чэрпае сваё натхненне выключна з натуры, палёт фантазіі — не ягоная тэма. Ён малюе ў асноўным на прыродзе, а не ў цішыні майстэрні. Краявід — яго ўлюбёны жанр, хоць часам звяртаецца да нацюрморта і партрэта. Стыль мастака блізкі да традыцыі беларускай рэалістычнай школы (вучыўся ў Беларускім мастацка-тэатральным інстытуце ў Мінску). „Па сваіх прыродных дадзеных і высокай адукаванасці ён мог бы зрабіцца выдатным мастацтвазнаўцам, аднак, як і шмат якія сапраўдныя мастакі, не любіць занатоўваць свае думкі на паперы", — лічаць яго калегі.

Крысціна Балаховіч вышэйшую адукацыю атрымала ў Вільні. Малюе перш за ўсё нацюрморты, аднак яе душа не любіць гэтага акрэслення, якое ў перакладзе гучыць „мёртвая натура". Свае творы яна называе „ціхае жыццё".

Алег Аблажэй вучыўся ў Віцебску і Вільні. Займаецца жывапісам, акварэллю, ілюструе кнігі для дзяцей. Апошнім часам пачаў пісаць казкі. Малюе партрэты, краявіды, аднак улюбёная тэма — жанчыны ў фантастычных строях.

Асноўны занятак Эдуарда Падбярэзскага — скульптура, надзвычай цяжкая і складаная галіна мастацтва. „Можа таму, як процівага, яго вабіць лёгкая акварэль?" — задумоўваюцца знаўцы. Ягоныя акварэлі нельга пераблытаць ні з якімі іншымі.

А Андрусь Балаховіч — мастак-самавук. Здаецца, гэта ягоныя краявіды карыстаюцца найбольшым попытам віленскіх і замежных аматараў мастацтва. Наведвальнікі Вільні могуць ягоныя працы сустрэць усюды: у галерэях, кавярнях, офісах, у амбасадах, у кватэрах заможных віленчукоў і сапраўдных знатакоў. „Несумненна, што ў будучым пра нашага беларускага Пірасмані-пейзажыста будзе напісана не адно цікавае даследаванне!" — мяркуецца сярод мастакоў.

Будзеце ў Вільні, пытайцеся, ці ўжо не гатова галерэя па вуліцы Жыгіманту 12. Рамантуе памяшканні (тут жа і сядзіба Таварыства беларускай культуры ў Вільні, і выдавецтва „Рунь", што газету выпускае і кнігі) фірма „Ідэя". У гэтым ціхім куточку над Віліяй, хоць у цэнтры, трымаецца Беларусь. Не мінайце!

**(лук)**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Вясельны каравай Альжбеты Тамчук і Дарафея Фіёніка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# *Мой спосаб на булімію*

Нядзельны поўдзень, канікулы. Дождж, дождж, дождж.

Сяджу каля акна ў хаце маёй прабабкі і гляджу як з дажджом адплываюць мае планы.

Ні ў якім разе я не ляжу на гарачым пляжы, не знаходжуся ў горах, дзе ў гэтай хвіліне я павінна прабываць. Гэтыя планы, падобна як і іншыя, мяшаюцца з балотам.

Шкада, я была ўпэўнена, што прынамсі на гэтых канікулах ўрэшце зрэалізую мой план „супердыеты".

І так ляжу ва ўтульным пакойчыку і *абжыраюся пячэннем з крэмам і п'ю цёплы шакалад.*

Што ж — жыццё нясе свае фокусы. Я, аднак, як рацыянальна думаючая дзяўчына, каб не папасці ў булімію, рашаю нешта прыдумаць. Ведаю ўжо, ведаю!

Падумаю пра штосьці цікавас (не, не аб пячэнні). Пра нешта, што мне прынесла вялікую радасць — пра экскурсію, якую рэалізавалі тэатральныя групы „Антракт" з БДК і „Ягуштова" з Аўгустова, паехаўшы на III міжнародны фэстываль дзіцячых калектываў, што адбываўся ў Вэнгажэве ў днях 13—14 чэрвеня г.г. Ужо самае падарожжа было вельмі цікавае. Мазурскія краявіды захапілі мяне сваёй прыгажосцю. У дарозе мы маглі лепш пазнаёміцца.

Удзельнікі двух гурткоў пабывалі на XII Сустрэчах „Зоркі", дзе пасябравалі. Пасля разам арганізавалі „Запусты" і „Шчодры вечар", а таксама многа іншых мерапрыемстваў.

Ужо на месцы мы даведаліся што будзем закватэраваны ў в Вэнгажэўскіх казармах. Не магу быць *марудай*, але скажу што на пачатку я не была захоплена, калі даведалася, што буду апякункай маіх малодшых сябровак. І так, прыйшлося мне два дні жыць у пакоі з дзевяццю малодшымі дзяўчынкамі. Аднак, крыху больш талерантнасці. Для мяне на пачатку здавалася, што маё жыццё будзе нецікавае. Было інакш — сапраўды весела!

Другі дзень (13 чэрвеня) падабаўся мне найбольш. Часта ўдзельнічаю ў розных мерапрыемствах, але ніколі яшчэ не прыйшлося мне гуляць у карагодзе. Файна было з іншымі ўдзельнікамі фестывалю прайсці вуліцамі горада. Цікавай і самай галоўнай тэмай экскурсіі былі выступленні ўдзельнікаў. Агляд праходзіў на вэнгажэўскім Пляцы свабоды. На ім выступіла пятнаццаць калектываў — з Польшчы, Украіны, Літвы, Балгарыі, Расіі, якія прадстаўлялі свае нацыянальныя меншасці, менавіта, беларускую, украінскую, ромскую, нямецкую, літоўскую, польскую і рускую. Вялікім гонарам было для нашых двух гурткоў прадстаўляць беларускую меншасць.

Мне найбольш спадабаўся карагод. Думаю, што найбольшым атракцыёнам для іншых удзельнікаў фестывалю было вогнішча. Яно адбылося каля скансэна і музея народнай культуры.

На вогнішчы мы, апрача таго, што елі каўбасы, маглі пасябраваць і супольна навучыцца некалькіх песень. Найбольшую індывідуальнасцю вогнішча, бясспрэчна, былі нашы групы. Мы забаўлялі іншых удзельнікаў спевамі і гульнямі.

Наступнага дня (14 чэрвеня) мы мелі перапынак і наведалі наваколле. Мы падаліся ў бок Гіжыцка, дзе паехалі на літургію ў тамашняй царкве, а таксама аглянулі касцёлы. Пасля мы вярнуліся на аб'яўленне вынікаў конкурсу. Нам было прыемна, што (як і ўсе калектывы) атрымалі вылучэнні.

Прыйшоў час развітання з прыгожымі Мазурамі. Зваротная дарога не была аднак такая вясёлая, як папярэдняя; як на кожнай нашай супольнай экскурсіі нашы апекуны мусілі сказаць некалькі слоў. Не было з гэтым ніякай праблемы таму, што спадар Дарафей Фіёнік з'яўляецца кіраўніком „Ягуштова". Мы ўсе з жудасцю глядзелі на яго, калі ён выняў некалькі лістоў і пачаў чытаць. Шматлікія каментары прымусілі *аратара* да вялікага скарачэння сваёй прамовы. Спадар Дарафей захаваў халодную кроў і каб замкнуць нам раты, ён супольна са спадарыняй Альжбетай Тамчук, вядучай „Антракт", запрасілі нас на свой шлюб. Іх план суцешыць нас выклікаў адваротны вынік. Замест замкнуць раты, усе іх падхвалілі. Настрой падняўся, мы ўцямілі сабе, што будзем („Антракт" і „Ягуштова") вялікай сям'ёй!

**Жана Роля**

# *Польска-беларуская крыжаванка № 34:*

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zamek | ▼ | Sałata | ▼ | Polak / Róg | ▼ | Kufer / Cios | ▼ |
| Osa | ▶ | ▼ | | ▼ | | Kosa | |
| Błyska-wica | ▶ | | | | | ▼ | |
| ▶ | | | | | | | |
| Kalendarz ▶ | | | | | | | |
| Kaktus | | | | Kat | ▶ | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 30**: Мір, смак, крыніца, акула, май, кара. Міг, край, крык, унук, магіла, цар, каша.

# *Старая і смерць*

***(венгерская казка)***

Ці быль гэта, ці небыліца, а жыла на свеце адна старая. Яна была старэй за самую старую закінутую дарогу, старэй за садоўніка, які рассадзіў дрэвы па зямлі.

Але хоць і старасць прыйшла, а старая гэтая ніколі не думала аб тым, што можа аднойчы наступіць і яе чарга — што да яе пастукаецца смерць. Дзень і ноч не разгінала яна спіны, па гаспадарцы завіхалася, прыбірала, шыла, мыла. Такая яна была няўрымслівая, да работы гарачая і нястомная.

Але аднойчы смерць вывела на дзвярах крэйдай і бабульчына імя і пастукалася да старой, каб забраць яе з сабою. А старой не пад сілу было разлучацца з гаспадаркай, і стала яна смерць прасіць-маліць, каб яшчэ крышку не чапала, а дала б ёй хоць чутачку, калі ўжо не з дзесятак гадоў, то хаця годзік, пажыць.

Смерць ніяк не згаджалася. А потым усё-такі расшчодрылася:

— Добра ўжо, дам табе тры гадзіны.

— Чаму ж так мала? — пачала прасіцца старая. — Ты мяне хоць цяпер не чапай, заўтра бяры з сабою.

— І не прасіся! — сказала смерць.

— А ўсё-такі!

— Ніяк нельга.

— Падумай лепш.

— Добра, — сказала смерць. — Калі так просішся, хай будзе па-твойму.

Старая ўзрадавалася, але выгляду не падала і кажа:

— Напішы на дзвярах, што да заўтра не прыйдзеш. Тады, як убачу тваю руку на дзвярах, спакайнейшая буду.

Надакучылі смерці дзівацтвы старой, ды і часу не хацелася дарма губляць. Выцягнула яна крэйду з кішэні ды на дзвярах ёю напісала: „Заўтра".

На другую раніцу, як толькі паднялося сонца, прыйшла смерць да старой, а тая на пярыне ляжыць, другою пярынай накрылася.

— Ну, пойдзем са мной, — сказала смерць.

— Ды што ты, галубка! — адказвае старая. — Паглядзі вось, што на дзвярах напісана.

Смерць заглянула, а там яе рукою крэйдай выведзена: „Заўтра".

# Падарожжа ў прыгожы кут Бацькаўшчыны

Козлікі — гэта невялікая вёска. З аднаго боку ахінае яе лес, з другога — рака. Сюды з'язджаюцца многія турысты. У вёсцы жывуць народныя рукадзельнікі Вольга і Аляксей Анішчукі. Яны займаюцца выплятаннем прыладаў з вікліны. Спадар Анішчук цікавіцца этнаграфіяй і мінуўшчынай рэгіёна. Непадалёк лесу, ля рэчкі, стаіць сіняя царкоўка, якой 150 гадоў. Шэсць разоў у год адбываюцца тут багаслужбы, якія вядзе настаяцель Кленіцкай парафіі а. Аляксандр Высоцкі.

Ля царквы знаходзіцца курган. Робячы новую агароджу, людзі раскапалі яго. І тады пабачылі яны косці. Спадар Анішчук гаварыў, што за татарскай навалы забілі ў Козліках многа людзей. Другі курган, парослы елкамі, сустрэнеце ў лесе. Непадалёк яго знаходзіцца вятрак.

— Вёска Козлікі ўзяла сваю назву ад козаў, якіх тут было процьма, — сказаў спадар Анішчук.

Людзі жывуць з гаспадаркі. Любяць хадзіць у грыбы, вудзіць рыбу, збіраць чарніцы. Хаты і сядзібы ў Козліках дагледжаныя. У агародчыках расце многа кветак і вінаграду. Побач забудовы знаходзяцца сады, дзе пераважаюць яблыні.

У вёсцы няма магазіна. Некалькі разоў у дзень прыязджае сюды аўтакрама.

За рэчкай сустрэнеце таксама цікавую вёсеку — Канюкі. Там таксама жыве народны мастак — разьбяр Уладзімір Наумюк. Варта наведаць Козлікі. Тут сапраўды прыгожа і цікава. Сустрэча з самадзейнікамі яшчэ шырэй раскрывае нам погляд на мясціну і яе мінуўшчыну.

**Анна Садоўская, Макаўка**



*Чароўныя куткі бацькаўшчыны.* Фота Ганны Кандрацюк

— Добра, заўтра прыйду, — сказала смерць і патупала далей.

Слова сваё яна стрымала і на наступны дзень ізноў прыйшла да старой. Тая ў гэты час яшчэ пацягвалася, на ложку лежачы. Але і цяпер, як і ўчора, смерць нічога не дамаглася. Старая зноў паказала ёй на дзверы, дзе рукою смерці было крэйдай выведзена: „Заўтра".

Так і пайшло кожны дзень, дзень за днём — тыдзень.

На сёмы дзень смерць сказала старой так:

— Добра, болей ты мяне не ашукаеш.

І сцерла слова з дзвярэй.

— Заўтра, — пагразіла старой смерць, — запомні добранька. Што б ні было, я прыйду і забяру цябе з сабой.

Пайшла смерць, а старая дрыжыць, як хадкі, зразумела — хочаш ці не хочаш, а памерці давядзецца.

Сядзіць старая, а ўсё ж не журыцца. Думае, і ніяк не прыдумае, дзе б ёй ад смерці схавацца.

— Не можа быць, — кажа старая сама сабе, — каб жывы чалавек не прыдумаў што-небудзь.

Надышла раніца, а старая нічога не прыдумала. У бутэльку гатова была нават залезці, вось да чаго ёй паміраць не хацелася.

Гадала старая, гадала, дзе б ёй схавацца лепей, і нарэшце прыдумала. Стаяла якраз у каморы бочка з маладым мёдам.

„Тут мяне смерць не знойдзе", — вырашыла старая.

Яна села ў бочку з мёдам, ды і так, што толькі вочы, нос і рот наверсе былі. Пасядзела яна, зноў затурбавалася:

„А раптам смерць мяне і тут знойдзе! Дай жа я лепей схаваюся. Залезу я ў пярыну".

Так і зрабіла. Прытаілася, сядзіць, не дыхае. Раптам зноў занепакоілася: рухавая была старая! Думае:

„А раптам і тут мяне смерць знойдзе?!"

Вырашыла старая цішэйшы куточак знайсці, каб схавацца.

Вылезла яна з пярыны. Толькі стала меркаваць, дзе б схавацца, а ў гэты час у пакой смерць зайшла. І бачыць: стаіць перад ёю пачвара страшная, уся ў пер'і і пер'е гэтае дыба тырчыць і трасецца.

Спужалася смерць, так спужалася, што ад страху пабегла прэч з бабульчынага дома: хто яе ведае, можа быць, і да гэтага часу не прыходзіла па старую!

# Баявое хрышчэнне

Калі я ў пачатку ліпеня прыехала ў Плацічна, што на Сувальшчыне, дык першыя свае крокі накіравала ў стадніну. Так хацелася паездзіць на маёй любімай кабылцы Джэніфер, на якой я вучылася ездзіць конна ў мінулым годзе!

Тады яна была цяжарная, але ўвесь час працавала, рухалася. Няхай працуе, казаў спадар Стась, уласнік стадніны, тады радзіць будзе лягчэй.

І сапраўды, пасля адзінаццаці месяцаў цяжарнасці, Джэнка ажарабілася вельмі лёгка. Было гэта ў маі.

Калі я ўвайшла на дзядзінец стадніны, сярод іншых коней адразу ўбачыла Джэніфер, а побач з ёю маладога жарэбчыка з такой жа зорачкай на ілбе, як і ў яго мамы.

Хаця ў стадніне было шмат коней, я хацела ездзіць толькі на Джэніфэр. Мне далі яе неахвотна, бо дагэтуль гэтага каня не бралі для язды: Джэніфер займалася жарабцом, які яшчэ ссаў.

Я пачала ездзіць па крузе, але Джэнчына галава ўвесь час была накіравана на жарэбчыка, які бегаў побач па загарадзі. Я ёй была абыякавая.

Як толькі я рашыла ад'ехаць далей, жарабец (у яго яшчэ няма імені), стаў, занепакоіўся, вадзіў вачыма ва ўсе бакі. Не мог уцяміць, куды падзелася яго мама.

І раптам убачыў яе, падбег да агароджы, радасна заіржаў. Стаяў, як зачараваны, і глядзеў на яе. І Джэніфер затрымалася і спаглядала на яго сваімі вялізнымі, вільготнымі вачыма.

У гэты момант цэлы свет належаў ім. Я зразумела, што нічога з такой язды не будзе. Ды і не павінна я перашкаджаць маці і сыну.

Зрэшты, ці ж мала коней у стадніне? Во і Бізнес стаіць, і Госса, і Сакрат, і Даяна, ды нават ёсць і Ясная Гара і іншыя.



*Развітанне з Джэніфер.*

І я пачала ездзіць на Бізнесе, але мінуў тыдзень, і ён скалечыў нагу. Мне было шкада яго, я ж ужо ў мінулым годзе ездзіла на ім. Быў ён, праўда, не такі спакойны, як Джэнка, але ўсё-такі я яго ўжо ведала.

Што было рабіць?! Мне запрапанавалі Даяну. Я пачала ездзіць на ёй галопам. На трэці дзень Даяна, бегучы галопам, неспадзявана брыкнула, і я паляцела з яе, быццам нейкае немаўлятка. Зваліліся, пакацілася на бок. Гляджу — нічога. Здаецца, усё цэлае. Я паднялася з зямлі, а ўсе прысутныя там працаўнікі стадніны да мяне: віншуем, кажуць, цяпер ты ўжо сапраўдны яздок, бо як гэта так, каб яшчэ ні разу не звалілася... Нарэшце ты прайшла баявое хрышчэнне, сцвердзілі.

Нічога не зробіш, давялося пачаставаць усіх — па традыцыі — півам.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А. Ч.*

**Віктар Швед**

### Аднавокі марак

Запытаў Альжбету
Дасціпны Ігнат:
— Скажы мне, хто гэта
Страшэнны пірат?

Альжбета па ўроках
Азвалася так:
— Гэта ж аднавокі
Адважны марак.

### Хворыя бацькі

— А майго дарагога татку, —
Пачулі хлопцы ад Рыгора, —
Лекар кіруе без аглядкі
Ехаць хутчэй на мора.

— Такая ж і ў майго павіннасць, —
Пацвердзіла малая Зоя, —
Мае прагульвацца няспынна,
Пайшоў на мора пехатою.

# Міфы старой Беларусі

**34. Талака**

Талака — апякунка жніва і ўрадлівасці. Яна ў вялікай пашане ва ўсіх беларусаў і па ўсёй Беларусі вядома пад тым імем. Свята ў яе гонар бывае не ў адзін час: у адных мясцінах раней, у іншых пазней, гледзячы на тое, дзе і калі бывае ўборка ўсіх пасеваў, часам толькі жыта і пшаніцы. Святкаванне ў гонар Талакі бывала вельмі ўрачыстае. На дыжынкі, калі дажынаюць апошні загон, звязаўшы агульны сноп, зрабіўшы талаковы вянок, талачэйкі кідаюць жэрабя, каму быць Талакою. Выбраўшы Талаку, карагод упрыгожвае яе рознымі кветкамі, дае ў рукі дажынкавы сноп, а на галаву ёй надзявае талаковы вянок з доўгім белым пакрывалам-шалем. Пасля гэтага карагод акружае Талаку і танцуе, прыпяваючы. Пастаўшы за ёю парамі, ідуць у дом гаспадара. Гаспадар падносіць хлеб-соль Талацэ, кланяецца ёй у пояс. Талака дае ўзамен талаковы сноп. Гаспадар і гаспадыня бяруць Талаку пад рукі, саджаюць яе на кут. Пасля заканчэння вячэры карагод з Талакою падыходзіць да гаспадароў і дзякуе за пачастунак пацалункамі. Затым Талака здымае з галавы вянок і аддае яго гаспадару, пакрывала ж застаецца ёй на памяць. Карагод талачэек абавязаны адвесці Талаку да самага яе дома.

# Што ў бельскай культуры?

**Размова з дырэктарам Бельскага дома культуры і кіраўніком калектыву „Маланка", Сяргеем ЛУКАШУКОМ.**

***— Нядаўна прайшлі „Спасаўскія запусты", суарганізатарам якіх быў БДК. Чым Вы займаецеся зараз?***

— Ужо канчаюцца летнія канікулы, у час якіх наш Дом культуры праводзіць шэраг мерапрыемстваў перад усім для дзяцей і моладзі. Для тых, якія цэлы год працавалі ў розных песенных, тэатральных, танцавальных калектывах і мастацкіх гуртках мы запланавалі мастацкія курсы, большасць якіх адбываецца ў іншых мясцовасцях. У БДК арганізавана выстаўка лінагравюры ўдзельнікаў двух нашых мастацкіх гурткоў. У гарадскім амфітэатры адбываюцца дыскатэкі і канцэрты.

***— Апрача адміністрацыйнай працы, дырэктарскай, Вы звязаны з бельскімі калектывамі. Ці не хацелі б крыху паўспамінаць?***

— З аматарскімі калектывамі я звязаны ўжо звыш трыццаці гадоў. Больш чым дваццаць гадоў працаваў з хорам „Васілёчкі", а ад 1990 года кірую гуртом народнай песні „Маланка". Што тычыцца дзіцячых і маладзёжных калектываў, дык ад 1976 года вяду ў Беларускім ліцэі гурт „Дзявочыяноткі", а ад 1984 года працую з калектывамі Пачатковай школы н-р 3, якія па-рознаму называліся — „Нашы дзеці", „Жучкі", а ад шасці гадоў „Журавінка". Дзеткі, якія спявалі ў калектывах пачатковай школы, калі сталі вучнямі белліцэя — траплялі ў калектыў „Дзявочыя ноткі". Некаторыя спевакі з „Дзявочых нотак" спявалі і спяваюць зараз у „Маланцы". Даў я з гэтымі калектывамі ў розных мясцовасцях Беласточчыны каля тысячы канцэртаў. Выязджалі мы таксама ў Варшаву, Гданьск, Быдгашч, Торунь... Вельмі прыемна ўспамінаем канцэрты на Беларусі, а з „Маланкай" прыходзілася пабываць у Францыі і Нямеччыне, ад чаго засталіся незабыўныя ўспаміны.

***— Столькі ранейшых выездаў, а зараз праца з трыма калектывамі. Адкуль браць час і энергію?***

— На ўсё гэта сапраўды трэба многа часу. Каб займацца з кожным калектывам, трэба падрыхтаваць перад усім новы рэпертуар, новыя песні, якія сам дома апрацоўваю, а пасля распрацоўваю з калектывамі, не гаворачы ўжо аб выездах на канцэрт. Гэта можна назваць наркотыкам, бо патрабуе субот, нядзель і кожнай большай вольнай хвіліны. Але ўсё ж такі, гэта ўжо ў крыві і цяжка было б уявіць мне працу без песні і калектываў. Аднойчы жонка сказала мне: „Забрацъ ад цябе ўсе гэтыя «маланкі», то заўтра ўжо цябе няма на свеце!"



***— У сувязі з заканчэннем працы Гарадской рады хацеў бы я спытаць Вас як раднага, як ацэньваеце фінансавую падтрымку аказаную Бельскаму дому культуры і беларускай культуры ў горадзе з боку Управы і Гарадской рады? Горадам кіравала ж Бельская кааліцыя, у якой бурмістр і старшыня Гарадской рады — беларусы.***

— Трэба сказаць, што фінансавая кандыцыя БДК у апошніх гадах была нядрэнная, а ў параўнанні з папярэднімі ўладамі можна сцвердзіць, што яна была і вельмі добрая. Датацыі на культуру былі на такім узроўні, што давалі Дому культуры магчымасць нармальнай працы. Апрача грошай на штодзённую працу мы атрымлівалі грошы на дзейнасць 7 аматарскіх калектываў, адрамантавалі будынак БДК, купілі гукаўзмацняльную апаратуру і музычную апаратуру, камп'ютэры. За апошнюю кадэнцыю зноў пачалі арганізавацъ Дні Бельска-Падляшскага, якіх святкаванні раней былі спынены. Фінансавую падтрымку з боку гарадской рады мелі таксама мерапрыемствы арганізаваныя беларускімі арганізацыямі, напрыклад „Спасаўскія запусты", „Бардаўская восень", агляды „Беларускай песні" і дэкламатарскія конкурсы. Фінансавалі мы часткова беларускія выданні, звязаныя з Бельскам-Падляшскім, напрыклад альбом з паэзіяй Надзеі Артымовіч і Юрыя Плютовіча і карцінамі Алега Кабзара. За гэты час паўстаў таксама пры БДК дзіцячы ўкраінскі калектыў „Ранок". За апошнюю кадэнцыю Гарадской рады мы адчувалі камфартабельнасць штодзённай працы, не думаючы аб скарачэннях штатаў, а свае намаганні накіроўвалі на дасканаленне сваіх кадраў і былі гэтага рэзультаты. У 1996 годзе Бельск заняў II месца ў „Рэйтынгу гмінаў Беласточчыны". У 1996 годзе атрымалі таксама цэнтральную ўзнагароду ў конкурсе „Бліжэй тэатра". Былі таксама поспехі ў музычнай і мастацкай дзялянках. Я хацеў бы, каб новыя ўлады Бельска апрача гаспадарчых спраў мелі на ўвазе хаця б на сённяшнім узроўні развіццё культуры горада, а ў тым ліку і культуры нацыянальных меншасцей.

***— Дзякую за размову***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Спасаўскія запусты

Некалькі апошніх гадоў у Бельску так павялося, што дзесьці так больш-менш каля Ганны (*асенняй панны*) беларускае асяроддзе горада арганізуе фэст з такой назвай. Ад серыйных фэстаў, якія па два ў нядзелю прадукуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства, „Спасаўскія запусты" розніліся тым, што заключалі ў сабе элементы адэкватнай да пары года жніўнай абраднасці і яшчэ тым, што пад мерапрыемствам згодна падпісаліся ўсе беларускія арганізацыі.

Сёлета „Спасаўскія запусты", якія праходзілі ў нядзелю 10 жніўня, таксама пачаліся жніўнай пастаноўкай тэатральнага гуртка Бельскага дома культуры. Але на плакатах быў названы толькі адзін арганізатар: Бельскі аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ці гэта вынік нейкіх закулісных, невядомых грамадству канфліктаў? Відаць не, хутчэй за ўсё дзеячы розных структураў не маглі спаткацца і дагаварыцца раней па прычыне канікулаў.

Сама імпрэза прайшла даволі паспяхова. Апрача дзетак з Бельскага дома культуры, на адкрытай сцэне ў цэнтры горада выступілі: Хор Гайнаўскага дома культуры, „Рэчанька" з Козлік, „Дзявочыя ноткі", Ала Дубэц і „Каласкі", эстрадныя беластоцкія гурты „Лідэр" і „Ас" ды гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч у суправаджэнні гітарыстаў Віктара Грышчука і баяніста Анатоля Кандыбы. На жаль, публікі было крыху менш, чымсьці ў папярэдніх гадах. Вінаваты тут найбольш пранізлівы вецер, які ў той дзень у іншых частках Беласточчыны нарабіў шмат сур'ёзных шкодаў.

„Спасаўскія запусты" былі скарыстаны для першай, вельмі далікатнай, выбарчай агітацыі. Сярод публікі раздаваліся лістоўкі з інфармацыяй, што ў бліжэйшых самаўрадавых выбарах, як і чатыры гады таму, Беларускі выбарчы камітэт, Саюз левых дэмакратаў і Саюз украінцаў Падляшша выступаюць як адна „Бельская кааліцыя".

**М. В.**

# Беларускія фэсты

## У Курашаве...

Падчас шалёнага вятрыска і страшэннай халадэчы ў нядзелю 9 жніўня рыхтаваўся беларускі народны фэст у Курашаве. Віхор пашкодзіў энергетычную лінію паміж Чаромхай і Гайнаўкай. Даўжэйшы час не было току. Не дзейнічала ўзмацняльная апаратура, без якой не маглі выступіць эстрадныя калектывы „Ас" і „Капры" з Беластока. Мастацкія калектывы не ўваходзілі на падрыхтаваную сцэну, толькі выступалі на мураве пад заслонам з двух аўтобусаў. Нягледзячы на пагане надвор'е народу сабралася надзвычай многа. Выдавалася, што прыйшлі на фэст усе жыхары вёскі.

Фэст адкрыла войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч. Прывітала яна сардэчна ўсю мясцовую публіку і прысутных на фэсце гасцей: дырэктара дэпартамента Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуша Стружэцкага, віцэ-консула РП у Беластоку Паўла Латушку, намесніка дырэктара Беластоцкага аддзела страхавой кампаніі „Поліса" Станіслава Катовіча і войта суседняй Кляшчэлеўскай гміны Аляксандра Сяліцкага.

Пасол Сейма Рэчы Паспалітай і адначасова старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі падзякаваў гмінным уладам і дырэктару мясцовай школы за дапамогу ў правядзенні фэсту.

Выступалі чаргова мастацкія калектывы: жаночы хор „Арэшкі" з Арэшкава, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў пад кіраўніцтвам Яна Бурноса, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова пад кіраўніцтвам Валянціны Грыкі, „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, якімі кіруе Уладзімір Сахарчук.

На заканчэнне выступілі госці з Беларусі — дасканалы мастацкі калектыў з Мазыра пад кіраўніцтвам Ніны Капусцінай. Спявалі і танцавалі галасістыя жанчыны і мужчыны, асабліва салісты Ірына Мандрык і Сяргей Шэмет. Калектыў вельмі спадабаўся ўсім прысутным на фэсце і быў успрыняты гарачымі воплескамі.

## ... і ў Семяноўцы

Выступаючыя ў Курашаве мастацкія калектывы пераехалі ў Семяноўку. На сцяне школьнага будынка красавалася палотнішча з надпісам: „Народны фэст у Семяноўцы '98". Маленькая сцэнка прытулілася да сцяны школы, якая крышку паўстрымоўвала страшэннае вятрыска. Семяноўцаў сабралася надзвычай многа.

Фэст адкрылі і гасцей ды публіку прывіталі войт гміны Нараўка Мікалай Павільч, старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Апрача калектываў, якія пераехалі з Курашава, выступалі эстрадны калектыў „Капры" з Беластока і мастацкі калектыў з Нараўкі пад кіраўніцтвам Анны Карэтка, якая прадэкламавала са сцэны верш Віктара Шведа „Прывітальнае слова". Акампаніявала яна на акардэоне свайму калектыву, які выканаў некалькі беларускіх народных песень.

З шырэйшай праграмай выступіў мастацкі калектыў „Стрэчанне" з Мазыра на Беларусі. Прысутныя ўспрынялі выступленні гасцей надзвычай сардэчна. „Дзякуем вам за шчырыя ўсмешкі, за цёплы прыём! Няхай песня не знае граніц!" — сказала на развітанне мастацкі кіраўнік калектыву Ніна Капусціна.

Валянціна Ласкевіч сардэчна падзякавала войту гміны Нараўка Мікалаю Павільчу і дырэктару Гміннага асяродка культуры Мікалаю Скепку за дапамогу ў правядзенні фэсту.

На фэстах свае кніжкі падпісвалі „белавежцы" Янка Целушэцкі і Віктар Швед.

**В. Ш.**

# Фальклорны садзік у Старым Ляўкове

У старалляўкоўскім дзіцячым садзіку настаўніцы Анна Несцярук і Анна Келбашэўская арганізоўваюць вельмі цікавыя заняткі з дзяцьмі. Запрашаюць да сябе мясцовых народных умельцаў, між іншым жанчын, якія ўмеюць прасці лён ці воўну на калаўротках, ткаць дываны на кроснах і вышываць макаткі. Дзеці ўвачавідкі азнаямляюцца з калаўроткам, які ўжо выйшаў з ужытку (яшчэ толькі некаторыя вясковыя жанчыны прадуць), з народнай вышыўкай і гафтаваннем.

У Ляўкове жывуць жанчыны, якія пякуць вельмі смачны хлеб з ягадамі ды на дубовым ці хрэнавым лісці. Яны прыносяць свой выпек і частуюць дзетак. Гэтаксама і абрадавым пірагом: вясельным караваем або „буслінай лапай".

Дзяцей знаёмяць таксама з колішнімі сельскагаспадарчымі прыладамі, між іншым цапамі, жарабікам, сярпом, драўлянымі сошкамі і баронамі, з вазамі на драўляных колах з жалезнымі абадамі.

Іншая важная дзялянка дзейнасці фальклорнага прадшколля гэта знаямленне дзяцей з даўнімі песнямі (перш за ўсё абрадавымі), казкамі і легендамі. Для гэтага „пад рукой" маюць ляўкоўскі фальклорныя песенны калектыў „Цаглінкі".

**(гай)**

Якія мы людзі

# Рыбка

У старым млыне летам заўсёды шмат адпачываючых, а асабліва многа іх прыязджае з Варшавы. Задавакі! Усё-ўсё яны ведаюць.

Вось і сёлета прыехаў адзін такі разумнік. І адразу давай павучаць! Нешта мяне тады ўжо цюкнула, калі стаў паказваць, як адчыняць капоту чужога замкнутага самахода. Вядома, каб выняць камусьці акумулятар. Кажу: не трэба мне! Я ж не буду чужыя акумулятары красці. Не, вы толькі паглядзіце, прымусіў ён. Націскаеце капоту во ў гэтым месцы — глядзіце! — і ўжо яна адыходзіць. Можна браць што хочаш!

І так націскаў ды націскаў чалавек капоту майго самахода. Я ўрэшце не вытрымала. Хопіць вам ужо псаваць мой самаход! Паказвайце на сваім! І адразу ў чалавека прапала ахвота весці арыгінальную лекцыю.

Людзі хадзілі абедаць у сталоўку, у нейкія бары. Нікому не хацелася варыць, хаця тут былі дзеля гэтага ўсе ўмовы. А што? — як адпачываць, дык адпачываць!

Наш варшавяк зарабіць не даў нікому. Купляў 10-15 дэкаў мяса, рабіў катлету ці гуляш. О, палічыце, хваліўся, колькі такі абед каштуе! Прынамсі ў дзесяць разоў танней за ваш. Радасць ад таго, што ў кішэні застаўся нейкі дадатковы грош, цалкам паглынала яго, падымала яго настрой, уплівала пачуццё шчасця ў яго ўжо не юначае сэрца. Скажу праўду: ніколі не сустрэла я чалавека, якому было аж так радасна ад затрыманага ў кішэні граша. Нават за пакупкамі ў горад стараўся ездзіць не сваім самаходам, а чужым, заадно з тым, хто ехаў. Вам жа ўсё роўна трэба ехаць, пераконваў ён фраера. Людзі не пярэчылі і ахвотна бралі яго: у кампаніі весялей.

* * *

Здавалася, кожны, хто быў жывы, лавіў тут рыбу. Вядома, азёраў было шмат. Некаторыя куплялі карту вудзільшчыка нават на цэлы сезон. Людзі, што жылі побач з намі, запрасілі нас на рыбку, якую меў злавіць гаспадар, ужо загадзя. Але нейкіх пару дзён рыба не брала. Мо было занадта холадна, а мо вецер дзьмуў з усходу. Я вырашыла тым часам купіць рыбу ў краме і пачаставаць суседзяў гадаўлянай стронгай.

Частаваліся яны нашай рыбкай без асаблівага энтузіязму: рыба ж была кормлена ў ставах штучным кормам, во каб была азёрная рыбка! Суседчын муж смактаў галоўкі стронгаў і ўсё дэклараваў нам злавіць „сапраўдную" рыбу ў возеры. Во калі пачуеце смак рыбы!

Мінуў амаль тыдзень. Праўда, сусед нешта прыносіў у сетцы, але не было гэта тое, чым мог бы ён пахваліцца. Найбольш было плоткі-драбніцы. І раптам шчасце ўсміхнулася яму. Калі вярнуўся дахаты, у сачку трапяталі два вялікія серабрыстабокія акуні з чырвонымі плаўнікамі. Я такіх вялікіх нават і не бачыла ніколі: можа важылі нават і па кілаграме. Дзеля пэўнасці чалавек кінуў іх на вагу: кіло дзевяноста!

Суседзі папрасілі нас на вячэру. Ого! — хопіць на чацвёра дарослых ды двое дзетак таксама. Па рыбіне на сям'ю. Я ахвоча ўзялася дапамагаць суседцы. Акуні, яны, вядома, рыбка смакавітая. Аднак, вазьмі ты абскрабі іх! А няхай цябе халера!

Супольнымі сіламі ачысцілі мы рыбку дасканала. І не ўжывалі пры гэтым ані кроплі гарачай вады: палітая кіпетнем рыбка лёгка скрабецца, але траціць смак.

Пасоленая рыба з гадзіну яшчэ пастаяла і мы пачалі яе смажыць. Не, фактычна я на кухні была толькі дзеля кампаніі, а мачала рыбу ў муку і клала ў гарачы алей суседка. Я не хацела ўмешвацца, бо кожная гаспадыня смажыць рыбу па-свойму: адна робіць з яе амаль сухары, другая — ледзь прыхопіць з аднаго і другога боку на патэльні, каб рыба ўнутры была вільготная.

Суседка была далікатная і запыталася, якую рыбу мы любім больш, а я адказала, што ўсялякую, хаця праўда такая, што мы за сухой не прападаем.

Пачуўшы пах смажанай рыбы, які нёсся па ўсім млыне, на кухні паявіўся наш дасціпны варшавяк.

— А ведаеце, ніколі не давялося мне каштаваць вось такую рыбку: проста з возера — ды адразу на патэльню. Я думаю, што вы не будзеце мець нічога супроць, калі я спрабую кавалачак, — не столькі запытаў ён у суседкі, колькі сцвердзіў факт гасціннасці маіх суседзяў.

Не-не, вядома, сказала жанчына, здымаючы першую падсмажаную рыбу з патэльні. Калі ласка!

Асмялеўшы варшавяк расселся за сталом, быццам у рэстаране. Зняў акуляры і акуратна працёр іх хустачкай. Выняў з шуфляды відэлец і ўзяў кавалак суседчынага хлеба ў руку. Суседка паставіла рыбу на стол. Убачыўшы, што ён збіраецца есці рыбу з гэтай талеркі, на якой красаваліся чатыры найпрыгажэйшыя кускі, яна падала яму чысты сподак.

Чалавек узяў вялікі кавалак рыбіны і з азартам пачаў есці. Ой, смачная якая! Яшчэ ў жыцці такой не еў, прыцмокваў ён. Сапраўды, азёрная рыбка — не тое, што гадаўляная! Можна, я вазьму яшчэ кавалачак? — Не чакаючы адказу, ён цягнуў ужо на сваю талерку наступную порцыю.

Хочаце, дык я вам заплачу, але мушу з'есці яшчэ кавалак, — апетыт у ашчаднага чалавека ўзрастаў па меры яды. Зрэшты, што тут гаварыць, акунькі — рыба што трэба, вось толькі каб не скрэбці іх.

Суседка зрабілася пунсовая. Што вы! Частуйцеся, калі смакуе. Я бачыла, што яна зусім разгубілася і не ведала, што рабіць. Калі варшавяк працягнуў руку за чацвёртым кавалкам, у яе вачах паявіліся слёзы, і яна хутка адвярнулася. А ён уплятаў ейную доўгачаканую рыбку, якою яна так хацела пачаставаць нас на вячэру, і нічога не бачыў праз свае працертыя, чыстыя акуляры.

Суседка з жахам глядзела то на чалавека, то на горшыя кавалкі і хвасты рыбы, не адважваючыся ўжо паставіць іх на стол, бо і яны, бадай, былі б з'едзены.

Во, дзякую. Наеўся дык наеўся. Душу адвёў, сцвердзіў варшавяк і, напіўшыся вады, пайшоў у свой пакой.

Суседка яшчэ прабавала сілком аддаць нам тую рыбу, што засталася, але мы ўжо не мелі ні ахвоты на яе, ні сумлення, каб забіраць ад рыбалова плён яго працы. Як жа гэта, каб ён нават не спрабаваў... А рыбы ў азёрах яшчэ многа.

**Ада Чачуга**

# Свята ў Старым Корніне

**— Даўней у Стары Корнін везлі і неслі людзей калекіх, ішлі ўсялякія хворыя і цудоўна аздараўляліся ад іконы Божай Маці. Месца было вядомае на ўсю акругу, — гаворыць Анна Тамашук, жыхарка гэтай жа вёскі. — Калі перабудоўвалі царкву, мой бацька быў пры гэтым, як тры вазы мыліцаў (кастылёў) спалілі, якія знайшлі пад падлогай царквы па аздаравелых калеках.**

Найбольш урачыстым святам у Старым Корніне і ваколіцы з'яўляецца дзень Успення Праведнай Анны, якая і ёсць нябесная заступніца меншай царквы. Памятаючы пра цудоўныя аздараўленні, прыязджае сюды многа людзей з усёй Беласточчыны.

У гэтым годзе 6 і 7 жніўня Усяночную і Літургію, на якіх сабралася многа людзей і святароў з многіх парафіяў, узначальваў уладыка Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы. У пропаведзі ўладыка Сава, між іншым, звярнуў увагу на значэнне Старога Корніна і яго святога месца для мацавання веры праваслаўных.

Людзей было многа і ў царкве, і навокал храма.

— Хаця пахмурна ў гэтым годзе, але людзей сабралася яшчэ больш, чым у мінулым, — сказаў вернік. — Калі была гарачыня, дык здаралася, што людзі млелі ў царкве.

**З мінулага**

— Мой прапрадзед расказваў бацьку, што раней наша вёска была ў іншым месцы, там дзе цяпер называюць Корнянкі, — расказвае Анна Тамашук. — Людзі ўбачылі ў лесе на дрэве ікону Божай Маці і вырашылі перабудаваць на гэтае месца царкву. Пазней усе вяскоўцы перасяліліся. Зараз і знаходзіцца каля царквы тоўстая таполя, якая і ёсць пасынкам ад кораня таго дрэва, на якім аб'явілася ікона Божай Маці.

З запісаў вядома, што ў XVIII стагоддзі былі дзве царквы, хаця пра пабудову адной успамінаецца ўжо ў 1631 годзе. Адна нагадвала касцёл, бо было восем бакавых алтароў, не было райскіх дзвярэй, а на хоры былі арганы, — расказвае настаўнік Гайнаўскага белліцэя, жыхар Старога Корніна, спадар Ян Місяюк. — Малую царкву перабудоўвалі ў 1890, а большую ў 1891 годзе. Са старой царквы астаўся алтар, драўляныя калоны і анёлы, чаго няма ў цэрквах нашай аколіцы. Ікона Божай Маці, ад якой цудоўна аздараўляліся людзі, прапала ў час бежанства, калі вывезлі яе ў глыб Расіі. Крыніца, якая выплывала з-пад дрэва, на якім знайшлі ікону таксама высахла, але аповеды пра аздараўленні і цуды асталіся. Нават і цяпер у царкве пад месцам для хора прыбіты кайданы, якія звязаны з расказам пра асуджанага. Калі вялі яго разам з іншымі праз вёску, папрасіў ён памаліцца. Падчас малітвы ў царкве кайданы зляцелі, што стала доказам яго невіноўнасці і падставай для вызвалення. Заслужана для парафіі таксама постаць айца Келясціна Брэна, які ў палове XIX ст. бесканфліктна заахвочваў да вяртання з уніі ў праваслаўе. Апісаў ён сваю парафію, мову, абрады. Ягоныя матэрыялы знаходзяцца цяпер у Пецярбурзе. Па сям'і захаваліся два крыжы, на якіх высечана прозвішча Брэн.

**Сучасныя аздараўленні**

— Зараз у час святкаванняў вернікі моляцца каля магілы Праведнай Анны і іконы праведных Богаайцоў Іаакіма і Анны. 8 гадоў таму прывезлі з Ізраіля частку рэліквіяў святой Анны, якія цяпер захоўваюцца за шклом каля іконы, — паказвае настаўнік Ян Місяюк.

— Я сустрэла чалавека, які пяшком з-за Баранавіч прыходзіў. Вельмі важная вера, таму даўней, калі пабачылі толькі купалы, дык на каленях ужо ішлі праз вёску, — расказвае Анна Тамашук. — У маёй сваячкі балеў палец і што ні рабіла, не магла вылечыць, а калі пачала яго прамываць асвячанай вадою, перастаў балець. Адна жанчына расказвала таксама пра свайго бацьку, якога ніяк не маглі вылечыць. Калі прынесла палатно на магілу і памалілася, не паспела вярнуцца дадому, як бацька стаў здаровы і жыў яшчэ вельмі доўга.

**Аляксей Мароз**

Адгалоскі

# Немцы — дэмакратычны народ

Мікалай Панфілюк не любіць немцаў („Ніва" н-р 31). Піша ён: „Немцы добрыя, але толькі самім сабе, а славянскай дабрыні і сэрца спазнаць ад іх не давялося ". Калісь былі дрэнныя, значыць у час вайны, і зараз таксама: „такая была нямецкая гасціннасць і яна сёння (падкр. — М. К.) нічуць не змянілася, хай людзі ведаюць пра гэта". Мікалай Панфілюк ужо пра гасціннасць немцаў ведае, хоць не піша, адкуль гэта ведае, можа тады і людзі ведалі бралі б з гэтае крыніцы, чым мелі б паверыць публіцыстычны карэспандэнта „Нівы".

Можна зразумець, што канікулы, што гарачыня, але навошта боўтаць чытачу ў галаве! Карэспандэнт заўважае, што „нашы бацькі і дзяды спазналі душы чалавечай спагаду і любоў да бліжняга. Гэта рускі магутны славянскі народ мае гэтыя якасці". Я пытаю: хто выганяў нашых з вёсак і сядзіб? Гэта была палітыка (у спаленых вёскі людзі не вернуцца і астануцца жыць у Расіі)!

Хтось нядаўна пытаў мяне, які ёсць беларускі народ. Я спачатку адказаў, што працавіты. Але потым, калі падумаў, сказаў, што прыкметы народа ствараюць акалічнасці. Розныя. Ваявіцасць палякаў дзевятнаццатага стагоддзя бралася з таго, што не было ў іх сваёй дзяржавы. Працавітасць беларусаў бралася з таго, што трэба было пражыць з дня на дзень. Затым прыкметы народа бяруцца з акалічнасцей, а не наадварот.

З другога боку, парадаксальна, беларускасць захавалася дзякуючы, а можа па прычыне нямецкай акупацыі. Шырока аб гэтым піша „Ніва". Гэта таксама праўда. На прымусовыя работы ў Нямеччыну ў час вайны ехала беларуская моладзь не так ужо і прымусова. Я не апраўдваю злачынствы немцаў, але задумваюся як гэта было, што за час нямецкай акупацыі ў Беларусі існавалі беларускія школы, газеты, тэатры? Вядома, немцы вялі такую палітыку, але чаму рускія вялі іншую? Хто прыгарнуў тысячы беларусаў у пасляваенны, цяжкі час? Можна ставіць такіх пытанняў многа. Адказы на іх не бела-чорныя: рускія добрыя, немцы кепскія. Зараз нямецкі народ, як і дзяржава, зусім іншыя. Так прынамсі кажуць тыя, хто там пабываў. Дэмакратычны народ і дэмакратычная дзяржава — саюзнік Польшы і ўсіх суседзяў.

**Міхась Куптэль**

Апанас Цыхун

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)

Частка XI

Калі я быў у Кунцаўшчыне на гаспадарах, апрача начнога стоража дзеда Андрэя Кашкі, блізкім маім сябрам быў яўрэй з мястэчка Індуры — Іршка. Быў ён сынам бедных бацькоў. Рана застаўся сіратою. Падрос, работы пры панскай Польшчы ніякай не было. Жыхары-яўрэі мястэчка Індуры знаходзілі сякія-такія мізэрныя сродкі для існавання. Займаліся дробным гандлем. Такім гандлем стаў займацца і бедны Іршка. Памятаю, як ён мне некалі расказваў свой сакрэт, які чынам стаў дробным гандляром, якіх у той час у вёсках называлі анучнікамі (ганучнікамі), бо, ў асноўным, яны скуплялі ў насельніцтва анучы.

Спачатку яму крамар Лейба даў у крэдыт на пяць злотых сахарыну, які ў той час у панскай Польшчы замяняў сялянам цукар. Сахарын вымянаў ён у сялян на яйкі, затым іх рэалізаваў на грошы. З выручкі аддаў доўг крамару і самому засталося тры злотых чыстай выручкі. Такім чынам, як кажуць, Іршка ўзбіўся на ногі, займеў свой „капітал", стаў дробным гандляром, анучнікам.

Дробны гандаль даваў яму магчымасць выбіцца з ліку беспрацоўных. Бывала, узложыць Іршка свой тавар у ражок салявога мяшка, закіне за плечы і крочыць ад хутара да хутара, ад вёскі да вёскі, ад сяла да сяла. Толькі тады, калі выходзіў з мястэчка на прасёлачную дарогу, Іршка адчуваў сябе сапраўды чалавекам. Знікала з яго вачэй уросшая ў зямлю, мохам пакрытая бацькоўская местачковая хатка. Не дакучаў холад, бо ідучы грэўся, дыхаў свежым паветрам. Адчуваў сябе чалавекам таму, што не бачыў тых надзьмутых, ганарлівых гільдавых купцоў, якія з яго заўсёды строілі кпіны, учынялі здзекі.

Любіў Іршка простых, шчырых вясковых людзей. Яны заўсёды яго радасна сустракалі. Ветліва запрашалі ў свае хаты.

— Бабачкі, дальбог, во, Іршка ідзе! Вунь там, каля кладкі, — радасна паведамлялі жанчыны, здалёк убачыўшы танклявую, крыху згорбленую фігуру з мяшком за плячыма. Старэйшым гаспадарам ён здымаў нават шапку-ярмолку, паказваючы сваю рыжую, густую шавялюру. Шэра-зялёнага колеру вочы свяціліся радасцю, на вуснах паяўлялася лёгкая ўсмешка. У нашай вёсцы не было ні аднаго выпадку, каб хто яго зняважыў, пакрыўдзіў. Мужчыны набывалі ў яго пачачкі тытуню, моцнай махоркі з Гродзенскай тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага, разрэзвалі іх на палавінкі, чвэрткі, таму што не кожны мог купіць цэлую. Набывалі „ксёнжачкі" курыльнай паперы маркі „Аіда", запалкі, якія калолі на палавінкі або чвэрткі, каб адной запалкай можна было два або чатыры разы здабыць сабе агню. А так, у асноўным, здабывалі курцы сабе агню крэсалам. Кавалачкам ад зломанага сярпа білі па крэмяні, утваралася іскарка, якая падала на порт (спаленую анучку), іскарку раздзьмухвалі і прыкурвалі папяросу або люльку.

Свой дробны тавар Іршка мяняў на анучы, свіное шчаціннe, конскі хвост, грыву, лён, яйкі, крупу, гарох, фасолю, сачэўку. Жанчыны набывалі ў яго гузікі, іголкі, мыла, соду, сахарын. Дзяўчаты — грабяні, брошкі, шпількі да валос, графкі, жучкі. Але асабліва чакалі Іршку з нецярпеннем малыя дзеці. Кожнае з іх думала: маці ці татка падабрэюць, дык купяць яму пеўніка, што свішча ці цукерку ў прыгожай паперцы. Але такое здаралася вельмі рэдка. Бацькам не было за што купляць. Вельмі добра было, калі татка з мястэчка часам прывозіў дзеткам па булцы. Вось тады была ў іх вялікая радасць, свята! Дзеці насіліся з булкамі па цэлых днях, адкусваючы па крыху, каб на даўжэй захаваць. Паказвалі іншым дзецям, выхваляліся: „А во мой тато якую мне купілі булку. Вунь, якую! Во, які мой тато!" З вялікай зайздрасцю глядзелі на іх дзеці бедных сялян, асабліва дзеці-сіроты, якім у іх жыцці ніхто нічога не купляў.

Любіў Іршка-анучнік прасёлачныя дарогі. Звыкся ён з імі. Але бывала, што надвор'е не спрыяла яму, асабліва зімой. Мароз шчаміць, пячэ. Мяцеліца. А Іршка ідзе з мяшком за плячыма, закутаўшы галаву мікалаеўскім башлыком. Ні люты мароз, ні мяцеліца не спынялі яго. Паволі, крок за крокам, рухаўся бедны анучнік па заснежаных прасторах да сваіх людзей. Падганялі яго нястача і голад. У вёсцы мог ён адагрэцца, напіцца малака ці кавы з сахарынам, пераначаваць на цёплай печы. Але такое здаралася вельмі рэдка, хіба ў час вялікіх паводак, калі рэчка Лашанка разлівалася і немагчыма было пераехаць праз яе нават вярхом на кані. А дома яго чакалі згаладнелыя дзеткі і жонка.

У Іршкі-анучніка была вялікая цяга да музыкі. Навучыўся ён іграць на скрыпцы яшчэ малым хлопчыкам у свайго дзядзькі Іцка, які быў музыкантам, іграў на вяселлях і вячорках. Але ён даўно ўжо памёр, а свае скрыпкі Іршка не меў за што купіць. Вось ён і заходзіў да мяне, былога семінарыста, паіграць на скрыпцы, каб хоць крыху забыцца пра свае гора, пагутарыць са мной, часам у мяне і заначаваць.

Скрыпка ў яго руках гаварыла, плакала, як жывая істота. Я з вялікай асалодай слухаў яго задушэўныя, журботныя яўрэйскія мелодыі, цудоўныя танцы. Некаторыя з іх я пераняў, асабліва польку-шабасоўку, якую да сённяшняга часу іграю, успамінаючы пражыты час і беднага анучніка з Індуры — Іршку.

Мяне з Іршкам ядналі і іншыя справы. Я цікавіўся яўрэйскай мовай. Часта думаў, яўрэі нешта гаргічуць паміж сабою, а ты стаіш, як дурны, і нічога не разумееш. Вось і выкарыстаў Іршку, каб ён дапамог мне ёю крышку авалодаць. Ён згадзіўся дапамагаць, толькі з умовай, каб я гэта трымаў у таямніцы, не гаварыў яўрэям, што ён мяне вучыць. Я зразумеў, што яўрэі былі супраць, каб хто іншы ведаў іхную мову. За гэта я дапамагаў яму матэрыяльна і быў яму вельмі ўдзячны. Вучоба працягвалася каля двух гадоў. У гэтым дапамагло мне веданне асноў нямецкай мовы, якія я атрымаў у польскай „паўшэхнай школе". У мяне, у маладосці, добрая была слыхавая памяць, дзякуючы гэтаму я хутка прысвойваў яўрэйскія словы. Іршка заходзіў у хату, звяртаўся да мяне на сваёй мове, размаўляў па-яўрэйску і тлумачыў. Асабліва цяжкія словы і выражэнні я запісваў у сшытак. Такім чынам за кароткі час я амаль авалодаў яўрэйскую мову. Запамятаў асобныя песні, якія спяваў і іграў на скрыпцы Іршка, у тым ліку, і песню „Гіз зон дэм вайн"...

Праз некаторы час анучнік Іршка, як кажуць, матэрыяльна трошкі падмацаваўся. Неяк назбіраў грошай і купіў сабе старога, худога каня, каб не хадзіць па вёсках пехатой, а ездзіць, так як і іншыя яўрэі-гандляры. І што за дзіва было, калі людзі ўбачылі, як Іршка на санях упершыню ўехаў у Кунцаўшчыну!

— Людзі! Людзі! Лянью!.. Гэта ж Іршка! Гэта ён да нас прыехаў, не прыйшоў... Як добра, што каня купіў. Каня купіў, во, якога файнага, сівага!.. — загаласіла Буднікава Гануля...

Іршка важна сядзеў на санях з пугай у руцэ. Уехаў у вёску і спыніўся каля Баўтруковай хаты. Людзі абступілі яго. Гладзілі каня рукамі. Прынеслі яму і духмянага сена з руткай, але Іршкаў конь яго толькі панюхаў, не еў. Галаву адвярнуў. Стоячы побач стары Салеяў Сцяпан заўважыў: „Ні есць — мусі зубоў ні мая. Стары!.." Падышоў бліжэй, узяў каня за храпы і зазірнуў яму ў зубы. Затым сказаў: „Гэ! Хлопцы, на ім далёка не заедзеш, дзе сеў — там і злезеш!.."

І сапраўды, Іршка на санях даехаў толькі да рэчкі. Быў марозік. На рэчцы прыбяражні. Іршкаў конь саней на пераездзе не змог нават з рэчкі выцягнуць. Упаў у ваду і не мог ўстаць, а над ім са спушчанай галавой, развёўшы рукі, стаяў анучнік Іршка. Людзі набеглі. На вяроўках ледзь сівога з рэчкі выцягнулі. Конь ляжаў з адкрытымі вачыма і глядзеў на свайго гаспадара, як быццам шкадаваў, што доўга яму не паслужыў. Сані людзі прыцягнулі да вёскі, а Іршка зноў, як і раней, пакрочыў з салявым мяшком за плычыма ад хутара да хутара, ад вёскі да вёскі, а ў Індуры яго чакалі згаладнелыя дзеткі і жонка.

Наогул, пры панскай Польшчы, на каня глядзелі людзі як на адзінага карміцеля. Прапажа каня лічылася вялікім горам, няшчасцем для сям'і. Па ім плакалі як па нябожчыку, чалавеку, гаспадару...

*(працяг будзе)*

Адгалоскі

# Рэфлексіі пра вайну

З цікавасцю прачытаў я артыкул Дзмітрыя Шатыловіча п.з. „Пачатак вайны ў Чаромсе" і падумаў, што непатрэбнымі былі мае спрэчкі ў „Ніве" з гэтым разумным чалавекам. Эмоцыі за сваю „праваты" нікога яшчэ не давялі да дабра і нездарма людзі кажуць: „Век вучыся, а дурнем памрэш".

Артыкул Д. Шатыловіча, напісаны рукою таленавітага літаратара, наводзіць многа думак і рэфлексій пра апошнюю вайну. І самая першая думка: чаму Сталін не прыгатовіўся да нямецкага нападзення, хаця разведчыкі інфармавалі яго, што Гітлер нападзе ў чэрвені 1941 года. Так выглядае, што Сталіна акружалі адны тупіцы; частка праўды ў гэтым ёсць, бо Сталін са здольнымі ваеннымі расправіўся падчас сваіх чыстак. Саветы распачалі мадэрнізацыю арміі сама перад вайной, разабраўшы свае найлепшыя самалёты, танкі, артылерыю. Калі верыць савецкаму перабежчыку і разведчыку Сувораву, Савецкі Саюз меўся восенню 1941 года маланкава напасці на Германію і далей захапіць усю Еўропу і таму многія склады са зброяй і прадуктамі былі распаложаны блізка граніцы пад адкрытым небам. Бо навошта рабіць дах, калі вось-вось грымнем на Германію? Паводле Суворава, Савецкі Саюз меў тады магутнейшае ўзбраенне чым Германія, за выключэннем самалётаў. Прадукцыю збудаванага савецкімі канструктарамі цяжкага бамбардзіроўшчыка ТБ-7, які лічыўся найлепшым у свеце, Сталін спыніў, бо палічыў яго непатрэбным у „маланкавым" захопе Германіі, паклаўшы націск на вытворчасць лёгкіх, але горшых ад нямецкіх, знішчальнікаў. І амаль усе тыя знішчальнікі былі разбіты немцамі ў першыя дні вайны, не падняўшыся ні разу ў паветра. І дзіўна, што сёння ніхто пра гэта не піша.

Пішацца затое многа пра гераізм байцоў і камандзіраў, як некалі пісаў пакойны Віктар Рудчык у „Ніве" пра геройства абаронцаў бункераў над Бугам. Калі верыць Сувораву, што саветы першымі збіраліся ваяваць, дык тады не надта відаць сэнс у іх будаванні, дзе давялося дзень і ноч працаваць тысячам запалоненых у так называемыя працоўныя батальёны і нашым людзям, у іх ліку і майму бацьку. У тое „войска" бралі на пачатку вясны 1941 года толькі „на два тыдні". Мінуў месяц, два, а дадому не пускаюць. А трэба ж у поле. Аднойчы раніцай, на пераклічцы, адзін прызыўнік, Яська з Арэшкава, паскардзіўся свайму палітруку, што бралі на два тыдні, а прайшлі ўжо два месяцы і канца не відаць, а дома асталася жонка, пяцёра дзетак і палявыя работы; у вачах чалавека паявіліся слёзы. Палітрук той расходзіўся, як дзікі звер, крычучы: „Вот, он даже плачет. Про дом ты забудь, мы ещё будем воевать. Смотри, — паказаў рукою на другі бераг Буга, — там сидит басурман и мы его погоним".

Калі забіралі мужчын, дык абяцалі, што на час работ у полі дадуць сваіх работнікаў. І мая маці пайшла да аднаго дэпутата, які высылаў на Буг дубіцкіх сялян, каб нечым дапамог у гэтай справе. Дэпутат сядзеў за сталом з адным палітруком пры бутэльцы гарэлкі і вялі мірную размову пра мудрасць партыі і Сталіна. Калі даведаліся ў чым справа, палітрук насміяўся над маёй маці, кажучы: „З такою маладою жанчынай можна яшчэ выконваць «палявыя» работы". Шчасце, што дзед дапамагаў маці.

А ў Машчонай-Каралеўскай, дзе знаходзіліся мой бацька і ўсе мае дзядзькі, катаржнічалі дзень і ноч. На тыя бункеры — „точкі" — саветы ўзялі ўзор у фінаў, якія там сярод балот і азёр складалі „лінію Манергейма", якую саветы не маглі прабіць. Саветы свае бункеры назвалі „лініяй Леніна" або „лініяй Молатава". І колькі дзеля іх дабра правалілі ў зямлю!

Бацька многа расказваў, што там аж кішэла ад шпіёнаў. І ад савецкх афіцэраў чуць было прафашысцкі дух. І ў вышэйшых ваенных кругах дзейнічалі пераапранутыя ў савецкую ваенную форму шпіёны і дыверсанты. Нямецкія самалёты штодзённа парушалі савецкую мяжу, але забаронена было страляць у іх.

Усім было вядома, што вайне не мінаваць. Людзі не хацелі ваяваць за Сталіна і яго кліку, аднак Гітлер і ягоныя прападобныя сваім тэрорам самі вінаваты ў сваім паражэнні. Калі выбухла вайна, немцы раскідалі з самалётаў лістоўкі, у якіх заахвочвалі здавацца ім і абяцалі, што будуць карміць і дадуць дах над галавою. І многія ў гэта паверылі. Аднак дзікі тэрор, які немцы прынялі, прычыніўся да таго, што рускія біліся з ворагам да апошняга патрона; выбіралі яны сталінскую няволю заміж гітлераўскага тэрору.

**Мікалай Панфілюк**

# Успаміны спадарыні Веры



**Пра жыццё ў Белавежы і ў Орлі пры санацыі і акупацыі расказвае 77-гадовая пенсіянерка Вера СУШЧ.**

— Мае бацькі, Дзмітры і Надзея, пазнаёміліся падчас бежанства. Мама выводзілася з арлянскай сям'і Жабінскіх, а бацька паходзіў з Высока-Літоўска каля Брэста. У Самары абое працавалі ў лазні — бацька быў там сторажам, а маці выдавала наведвальнікам венікі. Пажаніліся яны ў Самары.

Пасля вяртання з Расіі маладажоны пасяліліся ў Белавежы (у Орлі ўсё згарэла). Я нарадзілася 1 кастрычніка 1922 года. У Белавежы жылі мы ўвесь міжваенны перыяд. Тут я хадзіла ў школу, якая знаходзілася насупраць царквы. Кіраўніком школы быў пан Здажыль, а выхавацелькай малодшых класаў пані Кухарска. Пасля сёмага класа я не магла вучыцца з-за нястачы грошай. Дзяцей у нас было трое — я, брат Валодзя і сястра Валя. Бацька працаваў у тартаку, маці займалася домам.

Год пасля заканчэння школы пайшла я вучыцца за краўчыху. Мая майстрыха, родам з Познані, жыла недалёка бажніцы. Разам з дзвюма іншымі вучаніцамі шылі мы розныя строі, сукенкі, якія насілі потым па дамах і прадавалі. Навука мая працягвалася цэлы год. Пасля шыла я дома на мамінай машыне маркі „Зінгер", якую мама купіла сабе ў 1920 годзе, і якой я карыстаюся яшчэ і сёння.

Пры саветах, 23 кастрычніка 1940 года, пайшла я на чатырохмесячныя бухгалтарскія курсы, пасля якіх стала на працу ў Надлясніцтве Чало каля Белавежы. Жыла я там у леснічоўцы і працавала да прыходу немцаў.

Немцы адразу арыштавалі бацьку і, відаць, забілі. Два тыдні пазней, у ліпені 1941 года, вывезлі нас у вёску Лінова, у 12 кіламетрах за Пружанамі, каля станцыі Аранчыцы. Тады з Белавежы высялілі многа сем'яў. Памятаю, як на адну фурманку грузілі па дзве сям'і і везлі ў невядомае. Нас прызначылі да сялянскай сям'і. Гаспадыня называлася Маруся і было ў яе двух сыноў. Мы жылі ў каморы. Мама і сястра Валя працавалі ў полі, а я шыла паліто для дзяцей гаспадыні.

Нягледзячы на забарону, мы з сястрой Валяй рашыліся наведаць Белавежу і Орлю. Пайшлі мы пешшу і ўзялі з сабою сяброўку Ядзю, каталічку з Пазнаншчыны. Па дарозе сустрэлі нас немцы, але Ядзя, якая ведала нямецкую мову, абманула іх і яны прапусцілі нас далей. Каля Пружан зрабілі мы адпачынак і затым пайшлі далей. Адну ноч пераначавау нас Мікалай Улезла з Белага Ляску, які раней быў начальнікам надлясніцтва, у якім я працавала. Потым мы пайшлі лесам аж да Белавежы. Каля свайго дома адкапалі мы схаванае сала, пад'елі крыху і пайшлі шашою ў Гайнаўку. Там пераначавалі ў дзядзькі і пайшлі ў Орлю. На месцы расказалі мы дзеду Якубу, дзе вывезлі нас немцы. Дзед неадкладна падаўся ў Бельск аформіць пропуск, а мы той самай дарогай вярнуліся ў Лінова. Неўзабаве дзед прыехаў фурманкай і забраў нас у Орлю.

Замуж за Мікіту выйшла я 17 мая 1942 года. Тады немцы высылалі моладзь на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Сястру Валю забралі, а мяне, замужнюю, пакінулі. Спачатку жылі мы ў Качэлюка ў Вульцы, потым на вуліцы Пасвентнай у Орлі. Памятаю як у 1943 годзе, на свята Іконы Казанскай Божай Маці, немцы вывозілі арлянскіх яўрэяў. Ніхто з іх не вярнуўся.

Пасля вайны муж заняўся кушнерствам, а я дапамагала яму — вышывала кажухі. Пры нас гэтаму рамяству вучыліся Яраслаў Адзіевіч і Мікалай Кароўкін. З часам з'явіліся ў нас дзеці — дачка, два сыны і двайняты (дачка і сын). У 1961 годзе я аўдавела — муж загінуў у трагічным выпадку. Трыццаць гадоў (1951-1981) працавала я ў Гмiннай спулдзельні ў Орлі — у гастраноміі і бухгалтэрыі. Маімі главбухамі былі мой швагер Ільля Агіевіч, потым Лідзія Васілюк і Яўгенія Хаміцкая. На грамадскіх пачатках вяла я Лігу жанчын. Пасля адыходу на пенсію я моцна тужыла па рабоце, таму стала грамадскім інкасатарам Згуртавання пенсіянераў.

У Белавежы бываю рэдка, а гэта па прычыне здароўя. Наведвала я і Беларусь. У 1950-х гадах выявілася, што мой бацька, Дзмітры Сушч, загінуў 2 жніўня 1941 года і пахаваны ў брацкай магіле ў беларускай частцы Белавежскай пушчы. Апошні раз была я там дакладна ў гадавіну ягонай смерці — 2 жніўня 1961 года. Там сустрэлася з Мікалаем Улезлам і яго жонкай. Іхная сям'я таксама там загінула. Ад гэтай сустрэчы засталася памятная фатаграфія.

Усе дзеці абзавяліся сваімі сем'ямі. У мяне ўжо восем унукаў і двое праўнукаў. Калі сустракаемся, расказваю ім пра мінулае. Трывалым элементам пройдзенага ў нашай сям'і з'яўляецца швейная машына маркі „Зінгер", на якой шыла мая мама, я сама і дачка Ірэна і да якой мой сын Толік дарабіў электрапрывод. Цяпер мне ўжо цяжка нават нітку зацягнуць у іголку, але пашыць нешта дзецям і ўнукам усё яшчэ хочацца...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# ВЕР — НЕ ВЕР

Мілы Астронку! Сама не ведаю, што са мной дзеецца. У апошні час усё сняцца мне нейкія дзіўныя сны.

Яшчэ магу зразумець мой першы сон. Сніцца мне, быццам еду я ні то на трактары, ні то на камбайне. Вядома, я вяду гэты трактар. І раптам — тр-рах — і мне абрэзала палову ступні. А мне тады якраз нага балела і палавіна ступні дранцвела. І таму я думаю, што такі сон мне прысніўся ў сувязі з маёй хваробай.

Але ж вось нядаўна зусім невядома што мне прыснілася. Я са смерці чалавека ніколі не жартавала, а тут, у сне, вырашыла пажартаваць.

Сніцца, што памерла нейкая мая знаёмая, але я не магу акрэсліць, хто гэта. Проста адна старэйшая жанчына, апранутая ўся ў чорнае. Ляжыць яна ні то ў труне, ні то проста на катафалку. У кожным разе труны я не бачу.

Я, быццам нейкая хуліганка, узяла ды ўсадзіла ёй у зложаныя рукі стозалатоўку, але яшчэ старую, чырвонага колеру. Думаю: калі я палажу нейкія грошы, дык мо і яшчэ нехта да гэтага дадумаецца. І так назбіраецца немалая сумка, а гаспадары будуць цешыцца, што прыбудзе нейкі грош на пахаванне.

Так я ўсадзіла тую паперку ў рукі памерлай, а сама прылегла побач з ёю на лаўцы, бо гэта быццам бы прыносіць шчасце — паляжаць каля нябожчыцы.

І ўжо я быццам устала і бачу, што ў пакой гэты ўваходзіць нейкая жанчына. Я думала, што і яна ўваткне грошы ў рукі нябожчыцы, але дзе там... Разгледзелася баба налева-направа, дыбрык! — на маё месца. Таксама захацела паляжаць, каб быць шчаслівай. Ну і хітрая! — падумала я і прачнулася. І што ты скажаш, Астроне?

**Яня**

Яня! На першы сон ты ўжо сама адказала вельмі трапна. Сапраўды, сон быў выкліканы тваёй хваробай.

Што датычыцца другога, дык і тут ён у нечым напамінае жыццё. Ты думала, што людзі зараз кінуцца складаць грошы, а яны хутчэй бягуць, каб сабе шчасце запэўніць, а не дапамагчы бліжняму.

Маркую, што гэты сон прадвяшчае табе спакойнае жыццё.

**Астрон**

# Воўк даражэй чалавека

Усім вядома, што згодна рашэнню нашых уладаў ваўкі знаходзяцца пад аховаю. Калі б хто забіў ваўка, таму пагражае суд і такога віноўніка засудзілі б на больш, чым забойцу чалавека, бо воўк ад чалавека не зможа абараніцца. Калі воўк забівае хатнюю жывёлу, тады ён не вінаваты і няма каго судзіць, бо ваўка ў суд паліцыя не даставіць.

Каб не быць галаслоўным, я хачу прывесці прыклады шкодаў, якія ваўкі ўчынілі ў наваколлі маёй вёскі Бялкі, забіваючы і калечачы маладыя ялаўнік. У Агародніках, Рагазах, Трасцянцы (Нарваўская гміна), Каўпаках, Малынцы, Подварках (Заблудаўская гміна) і Патоцы (Міхалоўская гміна) забілі яны і пакалечылі чатырнаццаць штук маладога быдла. Людзі бачылі ваўчыцу з трыма ваўчанятамі. І куды толькі не звярталіся людзі, іх зацвёды адпраўлялі да ахоўнікаў прыроды ў Беласток. А яны ў сваю чаргу адказвалі, што трэба мець пасведчанне ад лекара-ветэрынара ды здымак задушанай жывёлы і тады толькі пісаць да іх заяву, а яны будуць звяртацца ў Міністэрства аховы прыроды. Калі міністэрства дасць грошы, тады яны выплацяць кампенсацыю за страты. А калі з міністэрства грошай не атрымаюць, тады нікому з пакрыўджаных не заплацяць, бо сваіх грошай яны не маюць.

На маю думку той, хто падпісаў той закон аб ахове ваўкоў, павінен сам заплаціць селяніну сто працэнтаў зазнанай шкоды, а не гуляць з селянінам у ката і мышку. Калі распараджэнне падпісаў ваявода, дык павінен ён і грошы мець, каб за шкоду заплаціць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Ногі нашы, ногі

Ногі нашы, ногі — не страшны ім высокія парогі. Колькі яны бегаюць, ступаюць — яны адны знаюць! Пачынаюць ад метраў, пасля кіламетры шагаюць, бегаюць і сваю мэту ведаюць. На сабе цяжар нясуць: ці дадому, ці нешта прадаюць. Нашы родныя ногі — няма ім знямогі! Калі яшчэ ходзяць, на сабе нешта заўсёды носяць. І праз жыццё, які яны зрабілі шлях. Можа быць неверагодна, а нават жах! Ногі маладыя — яны здаровыя і *пладавыя*, бегаюць шпарка і без падарка. А калі старыя, то валакуцца і ў пасцель пруцца. Гэта ўжо ўдар і стомленых ног не вылечыць і пажар. Ногі малады дзяўчат і жанчын часта робяць вялікі пачын. Бо яны румяныя, стройныя і заўсёды модныя. Мужчыны глядзяць на іх прагна і ўздыхаюць, гаворачы „ладна"... Доўгія ногі ў модзе і ў кожнай прыгодзе. І кароткія не паддаюцца, бо таксама ў пашане і не прадаюцца. Калі ногі ў форме, тады чалавек у норме. Стройная фігура гэта наша натура. Ногі многа значаць, а вочы ўсё бачаць. Ногі нашы, ногі, не страшны вам парогі.

**Мікалай Панфілюк**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-mail: niwa@kurier-poranny.com
Internet: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраповіч.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Вадалей

Апастылела мне безупынна і бяздумна перабіраць даступныя ў Беластоку тэлеканалы. Сеў я тады ў свой касмалёт, націснуў кнопку старцёра і, пралунаўшы праз розныя ваколзямныя сферы, паляцеў у напрамку свайго роднага сузор'я Вадалея. Доўга я ляцеў ці коратка — не асмельваюся сказаць, бо час, як адкрыў нам Эйнштэйн, гэта велічыня рэлятыўная. Абазначае гэта — ні менш, ні больш — тое, што паказанні майго гадзінніка ўразрэз разыходзіліся б з паказаннямі гадзіннікаў пазяхаючых у раскошных фатэлях маіх чытачоў. Чытачы ж мае — беларусы ад дзеда-прадзеда, а беларусы, як нам усім добра вядома, народ схільны да пасварак ды рознай другой злосці з прычыны рознай „ерунды". І каб у такой злосці не занеслі яны, шаноўныя, мой тэкст на цвік за клуняй ці ў нейкую другую крапіву або расаду, закрываю час майго лунання ў космасе грыфам „совершенно секретный".

Вось так лячу-лунаю я паміж рознымі галактыкамі ды пільна ўзіраюся дзе б прыпланеціцца, значыць пасадзіць на сушу свой касмалёт. Аж-на бачу: адна з планет — найяснейшая! Так і назваў я сабе яе — Найяснейшая. Пацікавіўся я, думаю, што там такое: мо пекла; дарэчы — цікавасць, як усім нам добра вядома, першая ступенька ў пекла менавіта. Пайшоў я на пасадку. Вылез я навонкі і бачу, што не пекла тут, а проста рай! Свято тое, гэта фаворскі райскі свет, а гарачыні ад яго няма, бо ўсе ўспышлівыя пякельнай гарачынёю месцы вельмі саноўныя саноўнікі кропяць астуджаючаю вадой.

Закрыў я свой лятальны апарат, пазамыкаў на замкі і ключы ўсе дзверы і вокны ды яшчэ ўключыў электронны вартаўнік, каб, вядома, ніхто не прыбраў майго касмалёта для „кароткатэрміновага пакарыстання" і падаўся на прагулку. Ступіў пару толькі крокаў і бачу: сядзіць у фатэлі вельмі саноўны чалавек. Малодшыя найяснейшчыкі ганяюць вакол яго мяч, а крыху старэйшыя намагаюцца ўсімі сіламі вырваць нешчаслівца з таго фатэля. А ён — быццам да нейкай чорнай дзіры прыклеіўся — ні з месца! Іду далей, бачу — другі вельмі саноўны панок сядзіць у вадзіцельскім фатэлі „Ланчыі" перадам назад ды рукамі і нагамі трымаецца таго фатэля, бо яго таксама нейкія злыдні стараюцца адарваць ад любіменькага сядзеньчыа і вельмі тэатральнымі шэптамі — каб адны чулі а другія не — тлумачаць, што ён зусім не ўмее тае „Ланчыі" вадзіць. А ён ім з сур'ёзнейшай павагаю тлумачыць, што ён гэтак ад золаку да змяркання працуе.

Іду далей, бачу — нейкі пякельны вэрхал-скандал вакол садзільшчыкаў чатырохканцовых зорак. Кругом стаяць розныя таксама „Ланчыі", а іх вадзіцелі круцяцца кругом на займаемых імі фатэлях, быццам на кухонных табурэтках пасля прыняцця слабіцельных мікстураў і — як у нямой кінакамедыі — прыкідваюцца, што наводзяць парадак, аднак ніякага голасу не падаюць ды і фатэляў сваіх, вядома, не пакідаюць. Прыглядзеўся я ім бліжэй і бачу, што горлы ім пергарэліся і перасохлі ад ранейшых крыклівых абяцанняў розных райскіх парадкаў ды шчасця і цяпер прагненька чакаюць на гаючае апырскванне сваіх халадзільшчыкаў-насадзільшчыкаў.

Надта ж мне спадабалася на той планеце Найяснейшай. Заахвочваю і вас, шаноўныя чытачы, наведаць тую планету. Ці мала, ці многа свайго суб'ектыўнага часу патраціце на гэта, напэўна шкадаваць не будзеце. Бо ж пабачыце і крыху пекла, і крыху неба, і нямое кіно і загадкавыя фатэлі. Мне вось не ўдалося пранікнуць у тайны тых тамашніх фатэляў: ці там магніт нейкі, ці якая адмысловая гравітацыя. Мо ваша дапытлівасць будзе больш плённай і той сакрэт раскрыеце. І тады — тэлефануйце ў аўдыётэле. Zadzwoń!

**Адам Маньяк**



*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

## Гарэлка БЕЛАРУСКАЯ новая

Арыгінальная беларуская гарэлка выраблена па традыцыйнай тэхналогіі на аснове высакаякасных зерневых спіртоў і асабліва чыстай вады, прайшоўшай спецыяльную апрацоўку. Усё гэта прыдае напітку крышталёвую чысціню і мяккі смак. Перад ужываннем рэкамендуецца ахаладзіць.

**Сделано в Беларуси**
**Made in Belarus**

Фрашкі пра нашых

### Пішам!

Шмат якія паэты пішуць у шufляду.
Некаторыя геніі паляць свае творы.
А калі хто з музай не дае ўжо рады,
Калі піша ў ложку, у полі і ў каморы,
Ў карчме і на возе і на канферэнцыі,
І жыць ужо не можа ад тае натугі,
Хай вады нап'ецца, набярэ патэнцыі
І — за эпапею! Папусці папругі,
Хай Пегас у аблокі кінецца галопам!

Не бойся, паэце! Адкрыюць це ўнукі!
Будуць знаць Амерыка, Азія ды Еўропа
Твой магутны голас, і пазнаюць руку,
Што пяро вадзіла па лістах паперы
І думкі радочкам вылівала роўным!
Бо ў творчасці, браце, найважнейшай — вера,
Жыццё недурное і багаты слоўнік.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка




**Гарызантальна:** 4. вадкая, кіслая страва, 7. Альберта, італьянскі кінарэжысёр (нар. у 1914 г.), 8. павольны бег, 9. аўстралійская жывёла з доўгімі заднімі нагамі, 10. горны ланцуг, 14. песнапенне ў гонар святога, 18. стральба па цэлі з некалькіх гармат, 19. прымусовая дастаўка ў органы следства або ў суд, 20. брэшыянскі рэлігійны рэфарматар, вучань Абеляра, які ў 1055 г. быў спалены ў Рыме, а попел па ім быў рассеяны ў Тыбры, 21. аднамесная спартыўная лодка з падвесным матарам.

**Вертыкальна:** 1. насценны малюнак з кароткім рэкламным тэкстам, 2. пакладзіна футбольных варот, 3. Энрыка, італьянскі тэнар (1873—1921), 4. адгароджанае месца ў аборы, 5. возера на поўначы Беларусі, 6. Серджыо, італьянскі кінарэжысёр (1929—89), 11. горад на поўначы Беларусі, 12. Сцяпан, беларускі акцёр (1903—78), 13. сярэдневяковая сталіца Іспаніі, 15. ноўгарадскі князь, заснавальнік дынастыі, якая панавала ў 862—1598 гг., 16. між гміналі і ваяводствам, 17. радыёлакацыйная ўстаноўка. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 28 нумара**

**Гарызантальна:** пастка, Самара, забава, сала, Арад, падгруздак, рута, улік, Гевара, страта, „Набука".

**Вертыкальна:** паласа, каза, Сава, разлад, банкруцтва, лапата, аракул, русіст, ікаўка, гета, рана.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока, **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіц.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Дырэктар даў мне падбаўку, — хваліцца дзяўчына сябру па працы.

— А мне не. Як ты яе дабілася?

— Магу сказаць, але гэта табе і так непрыгодна.

* * *

Два сябры папіваюць у рэстаране:

— Юрка, на што так безупынна глядзіш?

— На маё паліто ў гардэробе.

— Навошта?

— Бо тваё прапала гадзіну таму.

* * *

— Які быў ваш найшчаслівейшы дзень у жыцці? — пытае журналіст маладую актрысу.

— Гэта зусім не быў дзень.

* * *

Тэлевізійны рэпарцёр праводзіць інтэрв'ю з задрыпанцам:

— Скажыце, як выглядае ваш працоўны дзень.

— Рана выганяю авечак на пашу а пасля сядаю ды п'ю гарэлку.

— Гэтак не выпадае гаварыць; скажыце перад камерай, што чытаеце кніжку.

— Раніцаю выганяю авечак у загараду і сядаю чытаць кніжку. Пасля прыходзіць Юзак са сваёй кніжкай і чытаем яе разам. Пасля трынаццатай гадзіны ідзем у кнігарню, купляем дзве кніжкі і чытаем іх да вечара. А як ужо скончым, дык ідзем да Стася і чытаем яго рукапісы.

* * *

Два мужчыны ў шлюпцы пасля караблекрушэння:

— Думаеш, што нас знойдуць на гэтым моры?

— Мяне напэўна: плачу аліменты траім жанчынам.

* * *

Акуліст пасля абследавання паведамляе вядомаму футбалісту, што апошнім вельмі папсаваўся зрок.

— Ці гэта абазначае, — пытае спартсмен, — што мне трэба назаўсёды развітацца з футбольным полем?

— Неабавязкова; можаце стаць футбольным арбітрам.

* * *

У рэстаране сядзіць п'яны госць і так пільна прыглядаецца да блізнюкоў, што адзін з іх падыходзіць да яго:

— Не турбуйцеся: вы яшчэ не бачыце падвойна — мы папросту з'яўляемся братамі.

— Усе чатырох?